Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 24 (4927) 16 чэрвеня 2017 г.



# КОЛАСАВА ЗЯМЛЯ

У Акінчыцах — яго калыска. Калі ў сям'і нарадзіўся сынок Кастусь, яго бацька служыў леснікам-каморнікам у Радзівілаў. У Альбуці сям'я Міцкевічаў пражыла самы працяглы час, калі параўноўваць з іншымі леснічоўкамі. Але сядзіба Ласток найбольш захавала свой першапачатковы выгляд (перажыўшы невялікія рэстаўрацыйныя змены), у ёй адкрыты 2 пакоі экспазіцыі па матывах паэмы «Сымон-музыка»: тут творца гадаваўся. Адзіная хата, якая была ва ўласнасці сям'і Міцкевічаў, знаходзіцца ў Смольні. Усе мемарыяльныя сядзібы філіяла музея Якуба Коласа «Мікалаеўшчына» аб'ядноўваюцца комплексам драўляных скульптур «Шлях Коласа». Днямі гэтым шляхам прайшлі сучасныя творцы: каб узгадаць паэта, узнавіць у памяці яго радкі з «Новай зямлі», натхнёныя гэтымі мясцінамі, разгадаць таямніцу прыцягальнасці паэта Якуба Коласа ў наш час.

— Падчас імпрэз праекта «Жывая класіка» найбольш вершаў, якія выбіраюць для чытання, створаныя Якубам Коласам, — адзначае першы намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Алена Стэльмах. — Разважаю, чаму дзеці ў нашым свеце, дзе адбываецца столькі розных падзей і мяняюцца каштоўнасці, чытаюць Коласа? Таму што гэта наша, роднае... Адметна, што мы маем магчымасць дакрануцца да творчасці класіка ў тых мясцінах, дзе адбывалася яго станаўленне як асобы. Таму юбілей філіяла музея Якуба Коласа — гэта свята, якое яднае ўсіх беларусаў. Вялікі дзякуй супрацоўнікам музея на чале з дырэктарам Зінаідай Камароўскай за памяць, якую яны зберагаюць, за тое, што паказваюць, якую значнасць мае слова пісьменніка ў грамадстве.



*Фота Анатоля Клешчука.*

*Ля драўляных скульптур «Шлях Коласа».*

Працяг на стар. 4 ►

# СА СМАКАМ ПАЭЗІІ

## Вершы – у дапамогу людзям і маркетынгу




Прызнавацца ў любові да паэтычнага слова могуць як асобныя людзі, так і суполкі аднадумцаў ці нават прамысловыя прадпрыемствы, як гэта адбываецца ў Бярозе: мясцовы сыраробны камбінат чатыры гады таму заснаваў свой фестываль. Ідэя аказалася настолькі натхняльнай, што міжнародны літаратурна-музычны фестываль «Славянскі вянок» ужо вырас у свята для ўсяго раёна — выйшаў за межы прадпрыемства і сёлета ладзіўся ў новым Палацы культуры, які горад атрымаў летась.

Вялікая сцэна, вялікая зала — як і належыць фестывалю з міжнародным статусам. А сёлета ў Бярозе гучалі словы на дзевяці славянскіх мовах. Цяжка ўявіць, што пачыналася ўсё з літаратурна-музычных сустрэч на камбінаце, дзе збіраліся творцы ў асноўным з Расіі і Беларусі. Але ўраджэнец раёна паэт Алесь Разанаў, які выдатна памятае, як прагучала літаратурная Бярозаўшчына ў 1960-я гады на ўсю Беларусь (тут з'явілася кагорта творцаў), прапанаваў запрасіць удзельнікаў з іншых славянскіх краін. І яны прыехалі: з Украіны і Польшчы, Балгарыі, Сербіі, Македоніі, Чэхіі, Славакіі. Усе госці пачулі вітанне ад арганізатараў на роднай для іх мове. Нават калі часам падавалася, што розніца ці не ў гучанні ўсяго адной літары, прысутныя адчулі тую самую непаўторнасць мовы, за якой — адметная культура. Гэтую адметнасць імкнуліся падкрэсліць, калі, напрыклад, знаёмілі з гісторыяй сваёй краіны ці наогул раскрывалі сутнасныя з'явы для ўсіх славян: асветную ролю братоў Кірыла ды Мяфодзія асабліва адзначыў пісьменнік, доктар філасофіі Марын Ткач са Славакіі, але прадстаўнікі Балгарыі тут жа паспяшаліся нагадаць пра сапраўднае паходжанне святых. «Нашых?» — перапытала ў бацькі дзяўчынка, што сядзела побач. Але блізкім людзям няма чаго дзяліць і нескладана паразумецца.

Працяг на стар. 3 ►

## Пункцірам

✔ Адкрыццё дзён культуры Пермскага краю ў Беларусі распачалося выступленнем Пермскага губернскага аркестра на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Вітаючы гасцей, міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў адзначыў: «Дні культуры Пермскага краю стануць сапраўдным святам мастацтва і дадуць магчымасць беларускім гледачам бліжэй пазнаёміцца з культурай і мастацтвам гэтага старажытнага кутка Расіі». Культурная спадчына Пермскага краю своеасаблівая і самабытная. Пермскі край натхняў такіх вялікіх пісьменнікаў, як Чэхаў і Пастарнак, на стварэнне літаратурных шэдэўраў. У праграме афіцыйнай дэлегацыі Пермскага краю, якую ўзначальвае намеснік старшыні ўрада Ірына Івенскіх, — наведванне Беларускага дзяржаўнага аграрнага тэхнічнага ўніверсітэта, Рэспубліканскага інстытута прафесійнай адукацыі, Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

✔ Намеснік міністра замежных спраў Беларусі Яўген Шастакоў лічыць значнай ролю моладзі ў развіцці сучаснай дзяржавы. Пра гэта ён заявіў на сустрэчы з адоранай моладдзю ў межах мерапрыемстваў форуму «Маладзёжнае лідарства. Погляд у будучыню», што арганізуюцца Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтрам «Зубраня». Удзел у сустрэчы ўзялі лаўрэаты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў, лідары маладзёжных грамадскіх аб'яднанняў, маладзёжных парламентаў ва ўзросце ад 14 да 17 гадоў. Намеснік міністра расказаў пра станаўленне беларускага знешнепалітычнага ведамства, вядомых беларускіх дыпламатаў і штодзённую работу МЗС па абароне нацыянальных інтарэсаў дзяржавы, дастойнае прадстаўленне Беларусі на міжнароднай арэне.

✔ На агароджы парку Чалюскінцаў адкрылася фотавыстаўка «Спадчына Беларусі. Да 950-годдзя Мінска». Мінчане і госці сталіцы ўбачаць 40 рэпрадукцый работ вядомых фатографаў, журналістаў, лаўрэатаў прэміі «За духоўнае адраджэнне» Алега Лукашэвіча і Аляксандра Аляксеева. Выстаўка будзе экспанавацца па чэрвень 2018 года. На фотаработах прадстаўлены сядзібы, праваслаўныя і каталіцкія цэрквы і саборы, гарадская ратуша, адноўленыя інтэр'еры, унікальны фрэскавы роспіс, прадметы дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. Гэта своеасаблівае падарожжа па гістарычным Мінску. Арганізатары мяркуюць, што дзякуючы гэтаму праекту сталіца не толькі набывае непаўторны вобраз, але і ператвараецца ў горад-музей, культурны цэнтр еўрапейскага маштабу. Да акцыі могуць далучыцца ўсе ахвотныя. Лепшую работу размесцяць на агароджы парку.

✔ Беларускі дакументальны фільм «Чарнобыль. Экзамен для нацыі» рэжысёра Яўгена Сяцько (аўтар сцэнарыя — Уладзімір Мароз, аператар — Аляксандр Уласаў) перамог у намінацыі «Аўтарская работа» на XXI Міжнародным экалагічным тэлевізійным фестывалі «Выратаваць і захаваць», які ладзіўся 4 — 9 чэрвеня ў Ханты-Мансійску. У фільме адлюстравана сучаснасць Беларусі, намаганні дзяржавы па пераадоленні наступстваў Чарнобыльскай катастрофы на канкрэтных прыкладах, праз канкрэтных людзей, якія набліжаюць разуменне праблемы да гледача.

# Натхнёны сваёй справай

Філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта стаў значнай часткай біяграфіі многіх славутых пісьменнікаў, даследчыкаў мовы і літаратуры, перакладчыкаў. Сярод іх і сёлетні юбіляр — прафесар, доктар філалагічных навук Вячаслаў Пятровіч Рагойша. 8 чэрвеня адбылося ўрачыстае адкрыццё выстаўкі да 75-годдзя вядомага літаратуразнаўцы і педагога, зладжанай аддзелам абслугоўвання філалагічнага і эканамічнага факультэтаў фундаментальнай бібліятэкі БДУ. Праводзіла мерапрыемства і экскурсію па выстаўцы загадчык аддзела Жанна Карповіч.


Фота Марыны Міклашэвіч.

Дэкан філалагічнага факультэта БДУ І. Роўда, прафесар В. Рагойша.

Ва ўступным слове дэкан філалагічнага факультэта, прафесар Іван Роўда адзначыў, што менавіта юбілеі — мерапрыемствы, накіраваныя не проста на ўвагу і павагу да канкрэтнай асобы, але ўвогуле на чалавека, а не супраць яго, як тая інфармацыйная лавіна, якая абрынаецца на нас штодня. Амаль усе калегі — дацэнты, кандыдаты і дактары навук, прафесары, якія прыйшлі павіншаваць В. Рагойшу, некалі былі яго студэнтамі. Таму без перабольшання можна сказаць, што сучаснае аблічча факультэта — шмат у чым яго заслуга. Загадчык кафедры тэорыі літаратуры, прафесар Таццяна Шамякіна адзначыла, што менавіта Вячаслаў Пятровіч з'яўляецца для яе ідэалам сапраўднага інтэлігента. «У яго дзейнасці надзвычай удала спалучаецца паэтычная натхнёнасць сваёй справай і строгая акадэмічная дакладнасць. Аднак даўно вядома, што зразумець паэта можа толькі сам паэт. Не ўсе ведаюць, што вядомы даследчык беларускай паэзіі і сам піша вершы», — падкрэсліла Т. Шамякіна. У 2007 годзе выйшла кніга вершаў Вячаслава Рагойшы «Полюс цяпла», у якой сабраныя вершы, што цягам некалькіх дзесяцігоддзяў былі сціплымі спадарожнікамі навукова-даследчай працы прафесара.

Дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка звярнулася да архівазнаўчай дзейнасці В. Рагойшы, які не толькі адкрыў шмат новых імёнаў, але і расчытаў многія складаныя рукапісныя тэксты, цяпер уведзеныя ў актыўны навуковы ўжытак. Ствараючы на філалагічным факультэце тэорыю, В. Рагойша адначасова ўкараняе яе ў практыку архіўнай і бібліятэчнай працы.

Цікавую дэталь адзначыла кандыдат філалагічных навук, дацэнт, загадчык кафедры гісторыі беларускай літаратуры Таццяна Казакова: дзень нараджэння юбіляра адзначаецца ў дзень памяці асветніцы беларускай зямлі — Еўфрасінні Полацкай. Да віншаванняў далучыліся таксама магістранты, аспіранты, загадчыкі моўных і літаратурных кафедраў і іншыя навукоўцы філалагічнага факультэта: Уладзімір Навумовіч, Міхась Кенька, Мікалай Хмяльніцкі, Зінаіда Бадзевіч, Рыма Кавалёва, Ганна Бутырчык. «Вячаслаў Пятровіч — чалавек вельмі прагрэсіўных думак, ён заўсёды ў кантэксце сучаснасці, з ім заўсёды можна абмеркаваць падзеі сучаснага літаратурнага руху. Многія маладыя людзі ў гэтым яму саступаюць», — падзялілася сваімі назіраннямі аспірантка Вячаслава Пятровіча, адказны сакратар часопіса «Полымя» Юлія Алейчанка.

Падчас мерапрыемства многа цёплых слоў гучала пра сям'ю В. Рагойшы, якая ва ўсе гады была для яго надзейным апірышчам. Сам Вячаслаў Пятровіч падкрэсліў, што традыцыі роду, сямейная спадчына маюць вырашальнае значэнне ў жыцці кожнага, так жа, як і сяброўскае атачэнне, што мы самі выбіраем сабе ў сталым узросце. На выстаўцы было прадстаўлена 92 навуковыя работы даследчыка, аднак іх агульная колькасць за ўсе гады сягае амаль пад тысячу. Вячаслаў Рагойша перакананы: сёння навуковец не павінен замыкацца выключна ў акадэмічных штудыях, яго задача — быць прапагандыстам, актыўна ўдзельнічаць не толькі ў фарміраванні філалагічнага асяроддзя і інтэлігенцыі, але і шырэй — усёй нацыі. Яго ўласная біяграфія, асветніцкая, педагагічная і навуковая дзейнасць могуць служыць выдатным прыкладам гэтага меркавання.

**Жана КАПУСТА**

# Калейдаскоп мастацтваў у Віцебску

Да адкрыцця XXVI Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску», які пройдзе з 13 па 17 ліпеня, засталося менш за месяц. Асноўнымі мерапрыемствамі праграмы будуць XXVI Міжнародны конкурс выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск», падчас якога ўдзельнікі выступяць з сусветнымі хітамі ды песнямі на нацыянальных мовах, і XV Міжнародны дзіцячы музычны конкурс «Віцебск». Арганізатары фестывалю сустрэліся з прэсай і распавялі, што чакае гледачоў падчас штогадовага свята мастацтваў у горадзе на Дзвіне.

— Мы распачнём фестываль напамінам пра тое, што народ можа называць сябе народам, калі абапіраецца на свае традыцыі, мову, культуру, — адзначае галоўны рэжысёр урачыстай цырымоніі і гала-канцэрта адкрыцця фестывалю Марына Раманоўская. — «Славянскі базар у Віцебску» — тая пляцоўка, дзе ў канкурсантаў з кожнай краіны ёсць магчымасць не толькі атрымаць высокую адзнаку журы, але і шчырую ўвагу гледачоў.

Дырэктар Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску», прэзідэнт Сусветнай асацыяцыі фестываляў Аляксандр Сідарэнка распавёў: ідзе набліжэнне да 100% продажу квіткоў. Велізарным попытам карыстаецца тэатральная праграма. Спектаклі для дзяцей і дарослых прадэманструе «Лялечны квартал», дзе возьмуць удзел калектывы з Беларусі, Расіі, Украіны і нават Швецыі. Выставачная праграма фэсту, якая складаецца з беларускіх і замежных праектаў, атрымалася надзвычай разнапланавай. У межах мерапрыемства будуць экспанавацца гравюры Рэмбранта Харменса ван Рэйна, жывапіс, графіка, скульптура Таварыства рускіх мастакоў Эстоніі, арыгінальныя сярэднявечныя «Кунтушовыя паясы», мастацка-гістарычны праект «Спадчына Еўфрасінні Полацкай» ды інш. Амаль 500 заявак падалі на ўдзел у III фэсце вулічнага мастацтва «На сямі вятрах», які адбудзецца ў гістарычным цэнтры горада.

— Існуе меркаванне, што на фестываль ідуць шалёныя грошы з дзяржаўнага бюджэту, але насамрэч прыбыткі ад імпрэзы штогод узрастаюць, — распавёў Аляксандр Сідарэнка. — Апошнія два гады 89 — 90% ад агульнай сумы выдаткаў на мерапрыемства — гэта пазабюджэтныя сродкі: выручка ад рэалізацыі квіткоў, праца са спонсарамі і рэкламадаўцамі. За ўвесь час існавання «Славянскага базару» ў нас з'явілся вельмі надзейныя пастаянныя партнёры, супрацоўніцтва з якімі доўжыцца не адзін год. Ладзіць фестываль дапамагаюць арганізацыі не толькі Беларусі, але і іншых краін.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:**

**17 чэрвеня** — *на творчы вечар паэта-песенніка Івана Цітаўца ў Цэнтральным Доме афіцэраў. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**19 чэрвеня** — *на літаратурную імпрэзу «У гасцях у Францыска Скарыны (у межах рэспубліканскай акцыі «Лета — з добрай кнігай») з удзелам пісьменніцы Алены Стэльмах у дзіцячую бібліятэку № 16. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**20 чэрвеня** — *у школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**21 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Уладзімірам Тулінавым (у межах рэспубліканскай акцыі «Лета — з добрай кнігай») у дзіцячай бібліятэцы № 15. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**22 чэрвеня** — *на літаратурную імпрэзу (у межах рэспубліканскай акцыі «Лета — з добрай кнігай») з удзелам паэтэсы Іны Фраловай у дзіцячую бібліятэку № 15. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**23 чэрвеня** — *на літаратурную імпрэзу (у межах акцыі «Лета — з добрай кнігай») з удзелам пісьменніцы Наталлі Касцюэнка ў СШ № 23. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**20 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з казачніцай Кацярынай Хадасевіч-Лісавой у Браслаўскую дзіцячую бібліятэку. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**22 чэрвеня** — *на літаратурныя чытанні да 135-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы ў Сеніцкую сярэднюю школу імя Янкі Купалы. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**22 чэрвеня** — *на заняткі секцыі «Проза» вочна-завочнай школы «Са-Творчасць». Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**27 чэрвеня** — *на заняткі секцыі «Паэзія» вочна-завочнай школы «Са-Творчасць». Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**19 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з дзіцячымі пісьменнікамі Галінай і Сяргеем Трафімавымі ў бібліятэку імя Я. Коласа г. Оршы. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**20 чэрвеня** — *на Гадзіну дзівосных адкрыццяў «Кнігі чытай — в награду радость получай» з дзіцячымі пісьменнікамі Галінай і Сяргеем Трафімавымі ў бібліятэку імя Н. Крупскай г. Оршы. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**23 чэрвеня** — *на Пазнавальную гадзіну «Разумнікам і разумніцам» з удзелам Галіны і Сяргея Трафімавых у Андрэеўшчынскую сельскую бібліятэку-клуб Аршанскага раёна. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**24 чэрвеня** — *на сустрэчу з Кацярынай Сосна ў бібліятэку Іодскай сярэдняй школы Шаркаўшчынскага раёна. Пачатак аб 11- й гадзіне.*

**Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**23 чэрвеня** — *на чарговую сустрэчу з пісьменнікамі Л. Кебіч, Г. Скаржынскай-Савіцкай, Л. Шаўчэнка ў межах рэспубліканскай акцыі «Лета — з добрай кнігай» у СШ № 36. Пачатак а 12 гадзіне.*

**Гомельскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**21 чэрвеня** — *на гадзіну паэзіі «Завецца спадчына мая ўсяго старонкай роднаю», прысвечаную 135-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы, у філіял № 2 цэнтральнай бібліятэкі імя А. І. Герцэна ў 11.20.*

З **16 па 30 чэрвеня** — *на выстаўку аўтографаў паэта Аляксандра Каляды ў межах праекта «Аўтограф юбіляра» (да 70-годдзя паэта) у Цэнтральную бібліятэку імя А. І. Герцэна.*

# СА СМАКАМ ПАЭЗІІ

Вядучыя гала-канцэрта ў прадстаўленні ўдзельнікаў выкарыстоўвалі чатыры мовы. Ды ў Бярозе разумеюць украінскую (Палессе!), польскую (гістарычна), няма праблем, каб адгукнуцца на гучанне іншых моў, блізкіх роднай, беларускай. І нават удзельнікі мастацкай самадзейнасці Бярозаўскага сыраробнага камбіната самі з задавальненнем спявалі па-ўкраінску і па-польску. А капэла «Падляка» з Польшчы расчулілася спевамі па-беларуску. Але як не зразумець, калі паэт Хенрык Камінскі чытае вершы па-польску пра любоў да маці? Наогул, пераклад у гэты дзень (гала-канцэрт доўжыўся амаль шэсць гадзін!) рэдка калі быў патрэбны.

Гасцей гэта асабліва ўзрушыла. Ондрэй Мражэк з Чэхіі хацеў паказаць праз свае вершы Прагу, Аксана Стоміна — сваю Украіну, якую любіць. Любіць яе мірнай і кемлівай, з адэскім гумарам і поглядам на рэчы, як у адным з вершаў. Паэтка, што піша па-руску, на пачатку імпрэзы прызналася: вырашае, што чытаць, па настроі залы. Таму напрыканцы свайго выступу шчыра спытала: «Ці можна ўнесці крыху смутку?» — «Так», — адгукнулася зала, разумеючы: ёсць тое, што немагчыма абмінуць, як у вершы пра прываенныя гарады. І ёсць тое, што немагчыма ігнараваць: разумееш сябе часткай народа, які можа мець і карыстацца дзвюма мовамі, як Аляксей Чупа з Украіны, але Бог у яго вершах гаворыць на роднай яму мове. А яго зямлячка Алена Альшанска чытала радкі, напоўненыя энергіяй і жыццёвай сілай: пра сваё, чалавечае.

Гэта тое, што выходзіць за межы краін. Гэта тое, што існуе ў сваім рытме, у адпаведнасці з часам. Таму не спатрэбілася тлумачыць слухачам сэнс верша «СМС» маладога паэта з Сербіі Неманэ Стойкавіча. А якая мама ў зале не прамаўляла разам з нашай паэткай Настай Кудасавай словы калыханак, адрасаваных сыночку і дачушцы? І так натуральна ішлі гэтыя словы, нібыта ўсё жыццё іх ведаў, — вось чараўніцтва матчынай мовы. Сваё нам бліжэй — даказалі і слухачы, аддаўшы прыз глядацкіх сімпатый паэту і барду Эдуарду Акуліну. Воплескі заслужыў Георгій Ліхтаровіч: прапанаваў вярнуць гістарычную назву гораду. Наш зямляк Алесь Каждуб — цяпер прадстаўнік Расіі на фестывалі. Хто сказаў, што празаік не павінен любіць паэзію? Асабліва калі гэта радкі Уладзіміра Караткевіча «На Беларусі Бог жыве…»

Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.

Жыве і дзейнічае праз людзей. Для яго няма гарадоў вялікіх і маленькіх, людзей вялікіх і маленькіх. Няма падзелу на натур паэтычных і прамысловых: адно другому не перашкаджае, а дапамагае, нават у справах гаспадарчых. Бо, на думку заснавальнікаў фестывалю, маркетынгавы эфект вымяраецца не эканамічнымі катэгорыямі, а чалавечымі ўзаемаадносінамі: «Мы стараемся вырабляць натуральны якасны прадукт. Ці можа ён быць далёкі ад паэзіі і культуры?..»

Намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Бярозаўскага райвыканкама Аляксандр Крагель адзначыў: «Гэтым фестывалем мы ствараем пляцоўку, каб нашы паэты маглі пачытаць свае вершы». Адна з удзельніц Маргарыта Гаравая вядомая па працы ў раённай газеце, дзе ёсць літаратурная старонка «Крыніца». Маладая паэтка Алена Казловіч-Усцілоўская прадэманстравала здольнасць пісаць вершы не толькі па-беларуску, але і па-польску.

— Фестываль — гэта сучасная форма арганізацыі літаратурнага працэсу, — адзначыў Сяргей Главюк, прадстаўнік Расіі. — У савецкія часы магутныя Саюзы пісьменнікаў існавалі нібыта асобныя міністэрствы. Але цяпер сітуацыя змянілася, і саюзы ўжо не маюць такога ўплыву на культурны працэс. Фестывалі даюць магчымасць захаваць перакладчыцкія школы, узбагачаюць кантактамі, спрыяюць развіццю. Я патрапіў на фестываль гадоў 30 таму, з тых часоў узнікла ідэя, дзякуючы якой я выдаў у Расіі 10-томнік Анталогіі славянскай паэзіі. А 10 гадоў таму самому ўдалося арганізаваць фестываль «Пісьмёны, якія спяваюць» у Цвяры (адкуль выцякаюць 3 вялікія славянскія ракі Волга, Днепр, Заходняя Дзвіна). У нас заўсёды прадстаўнічая беларуская дэлегацыя. Першую ўзнагароду для Беларусі летась заваяваў Алесь Разанаў. Лаўрэату мы выдаём кнігу, і яна ўжо з'явілася на дзвюх мовах. Таму добрым працягам «Славянскага вянка» была б свая кніжная серыя.



*Будзем сябраваць фестывалямі: Сяргей Главюк (Расія) атрымлівае дыплом з рук першага намесніка дырэктара Бярозаўскага сыраробнага камбіната Ірыны Цюшкевіч.*

Сяргей Главюк прапанаваў наладзіць трывалыя кантакты паміж двума славянскімі паэтычнымі фестывалямі. І быў у гэтым жаданні не адзіны: паэт і канцэптуальны мастак Мітка Гогаў ладзіць фестываль у Струміцэ і налета мяркуе запрасіць туды паэта з Беларусі. Паэт з Македоніі падсумаваў канцэптуальна па-славянску: «Няхай жыве кірыліца!». Ва ўсёй яе шматаблічнасці…

**Ларыса ЦІМОШЫК**

## Дайджэст

• Падчас пераезду ў дом састарэлых амерыканскі пенсіянер нечакана знайшоў карціну, якая можа прынесці яму 15 мільёнаў долараў. Гаворка пра невядомую дагэтуль работу мастака-абстракцыяніста Джэксана Полака, што праляжала ў звычайным гаражы горада Скотсдэйл, штат Арызона, з пачатку 1990-х гадоў. Высветлілася, што сястра пажылога мужчыны Джэніфер Гордан Косгрыф калісьці была знаёмая са знакамітым мастаком. Пасля яе смерці брат перанёс рэчы сястры ў гараж, не звяртаючы на іх асаблівай увагі. Сусед, які дапамагаў пенсіянеру з пераездам, заўважыў карціну і параіў аднесці яе спецыялісту. Там высветлілася, што палатно мае выключную мастацкую каштоўнасць. 20 чэрвеня карціна Полака з'явіцца на аўкцыёне.

• Упершыню ў гісторыі галоўнай узнагароды Амерыканскай кінаакадэміі на атрыманне прэміі «Оскар» можа быць вылучаны прома-ролік да відэагульні. Адзінаццаціхвілінны трэйлер гульні «*Everything*», распрацаванай для прыстаўкі *PlayStation 4*, даслалі на фестываль кароткаметражных фільмаў у Вене, дзе ён атрымаў прыз журы. Гэтая ўзнагарода аўтаматычна дазваляе пераможцы ўзяць удзел у спаборніцтве за «Оскар». Афіцыйны прэс-рэліз, падрыхтаваны адмыслова для Венскага фестывалю, сцвярджае, што прома-ролік створаны не дзеля забавы: гэта паўнавартасны паэтычны і філасофскі твор, а сама гульня «*Everything*» — спроба па-новаму адлюстраваць узаемасувязь чалавека з сусветам.

• У Фінляндыі прадстаўнікам сацыяльна неабароненых слаёў насельніцтва прапаноўваюць бясплатна наведваць культурныя мерапрыемствы. Своеасаблівы эксперымент распачаў нядаўна абраны міністр культуры Сампа Тэрха. Па словах міністра, адна з найвялікшых праблем Фінляндыі — маргіналізацыя насельніцтва. Спадар Тэрха сцвярджае, што дзяржава павінна забяспечваць маламаёмасных грамадзян не толькі ежай ды грашыма, але і здабыткамі мастацтва. Вольны доступ да тэатраў, музеяў, канцэртаў, выставак мае на мэце ўзняць агульны культурны ўзровень краіны.

• Музей выяўленчых мастацтваў імя А. С. Пушкіна паведаміў пра незвычайную акцыю: установа распачынае збор дзіцячых вазкоў ды калысак. Такі нязвыклы матэрыял патрэбны для арганізацыі першай персанальнай выстаўкі сучаснага мастака Цая Гацяна (вядомы як аўтар шоу адкрыцця Алімпіяды-2008 у Пекіне) у Расіі. У межах праекта «Кастрычнік», прысвечанага стагоддзю Кастрычніцкай рэвалюцыі, мастак плануе пераўтварыць Пушкінскі музей у вялікую інсталяцыю. Дзіцячыя вазкі будуць пакладзеныя ў аснову манумента на ўваходзе ў музей і стануць метафарай наіўнай мары пра светлую будучыню. Для інсталяцыі Цаю Гацяну патрэбны 350 калысак ды дзіцячых вазкоў.

# З кнігамі — у народ

**По запрашэнні Салігорскай раённай дзіцячай бібліятэкі ў Салігорску пабываў вядомы пісьменнік, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў.**

Тут адбыліся дзве творчыя сустрэчы з паважаным аўтарам шматлікіх кніг. Першая — з юнымі чытачамі горада ў межах рэспубліканскай акцыі «Лета — з добрай кнігай». Выдавецтва «Народная асвета» разгарнула выстаўку-продаж кніг, адрасаваных дзецям, у тым ліку і 20 кніг шаноўнага госця. Спявак і кампазітар Сяргей Кравец выканаў песні на вершы паэта. Дзеці мелі магчымасць задаць пісьменніку пытанні, а таксама набыць кнігі, прывезеныя супрацоўнікамі выдавецтва.

Другую творчую сустрэчу Міхась Пазнякоў зладзіў з работнікамі бібліятэк Салігорскага раёна. Ён распавядаў пра малую радзіму, бацькоў, пра жыццё пісьменніцкай арганізацыі.

**Павел КУЗЬМІЧ**

## ЛіМ-каляндар

**12 чэрвеня** — 90 гадоў з дня нараджэння Ліліі Драздовай (1927 — 2011), беларускай актрысы, заслужанай артысткі БССР, народнай артысткі РСФСР. Жыла ў Расіі.

**12 чэрвеня** 80 гадоў споўнілася Льву Ляху, беларускаму дырыжору, педагогу, заслужанаму дзеячу мастацтваў БССР.

**12 чэрвеня** 75-годдзе адзначыў Леў Аганаў, беларускі скульптар.

**13 чэрвеня** 80-гадовы юбілей святкаваў Уладзімір Самачарноў, беларускі графік, жывапісец.

**13 чэрвеня** 60 гадоў споўнілася Ігару Жуку, беларускаму крытыку, літаратуразнаўцу.

**13 чэрвеня** — 20 гадоў з часу заснавання Музея сучаснага выяўленчага мастацтва. Адкрыты ў 1998 г.

**14 чэрвеня** — 150 гадоў з дня нараджэння Мітрафана Доўнар-Запольскага (1867 — 1934), беларускага гісторыка, этнографа, фальклярыста, літаратуразнаўца, аднаго з заснавальнікаў беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі.

**14 чэрвеня** — 115 гадоў з дня нараджэння Валянціна Краўцова (1902 — 1963), беларускага акцёра, заслужанага артыста БССР.

**15 чэрвеня** — 115 гадоў з дня нараджэння Яна Бабровіча (1902 — 1943), дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, публіцыста.

**15 чэрвеня** — 85 гадоў з дня нараджэння Яўгена Каробушкіна (1932 — 2015), беларускага жывапісца, педагога.

**16 чэрвеня** — 120 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Шлюбскага (1897 — 1941), беларускага літаратуразнаўца, этнографа, фальклярыста, бібліёграфа.

**16 чэрвеня** 80 гадоў адзначае Аўгусцін Мілаванаў, беларускі акцёр, народны артыст БССР.

**18 чэрвеня** 85-годдзе святкуе Галіна Барташэвіч, беларуская фальклярыстка.

**18 чэрвеня** — 80 гадоў з дня нараджэння Сяргея Пятроўскага (1937 — 1999), беларускага кінааператара, кінарэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

## Ідзе падпіска на ІІ паўгоддзе

| «ЛіМ» | 1 месяц | падпісны індэкс |
|---|---|---|
| Для індывідуальных падпісчыкаў | 4 р. 50 к. | 63856 |
| Ведамасная падпіска | 12 р. 70 к. | 638562 |
| Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў | 3р. 00 к. | 63815 |
| Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі | 9 р. 60 к. | 63880 |

## Палачане



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# СЯБРА І НАСТАЎНІК

Першы матэрыял у газету я напісаў будучы карэктарам, куды прывёў мяне лёс дзевятнаццацігадовым юнаком прама з цэха полацкага завода шкловалакна. Магчыма, новая праца і дазволіла зрабіць канчатковы выбар, і журналістыка, як і літаратура, стала маім лёсам.

Зрэшты, пісаць замалёўкі, рэпартажы і нарысы не ўваходзіла ў абавязкі карэктара, але, удыхнуўшы водар газетнага жыцця, у вольны ад карэктарскай працы час я пачаў хадзіць на сустрэчы з творцамі, занатоўваць іх расповеды і прапаноўваць на газетныя старонкі свае пробы пяра. Карэктарская знаходзілася не ў самой рэдакцыі, а ў памяшканні друкарні, што была крыху наводдаль. Арыгіналы матэрыялаў і газетныя палосы нам з напарніцай Вольгай Антонаўнай Шчарбо прыносілі ўжо пасля набору з лінатыпнага цэху. І вось з трапятаннем і радасцю бачу на паласе свой нарыс пра аднаго з перадавых шклозаводаўцаў, ветэрана, Героя Савецкага Саюза Сцяпана Пашкевіча. Чытаю... і не пазнаю амаль ніводнага свайго слова. Усё прыгожа, лагічна, але ж гэта не маё! Твар заліваецца чырванню, лезу ў арыгінал, а ён увесь скрамсаны і перапісаны зверху прыгожым дробным незнаёмым почыркам. Аказваецца, матэрыял падрыхтаваны да друку намеснікам рэдактара Германам Кірылавым. Зняць яго ці подпіс было ўжо немагчыма: суровы рэдактар загадаў пакінуць усё, як было здадзена ў друкарню.

Назаўтра я нясмела пастукаўся ў кабінет Кірылава. Малады, прыгожы, светлавалосы, ён сустрэў мяне прыязнай усмешкай. Герман Іларыёнавіч адразу прапанаваў называць сябе па імені і на ты і падарыў мне сапраўдны ўрок: «Я толькі паспрабаваў паказаць, як бы я мог зрабіць гэты матэрыял, чаго ў ім не хапала. Ты чалавек здольны, я чытаў твае першыя вершы, і ты сам зробіш пэўныя высновы. Абяцаю, больш перапісваць цябе не буду». Гэты прыём я потым і сам прымяняў да першых спроб пачаткоўцаў: па рэакцыі было відаць, ці здольныя яны засвоіць таямніцы прафесіі.

Кірылаў уразіў мяне бліскучай эрудыцыяй, дасканалай беларускай мовай, манерай гаварыць і на многія гады стаў маім настаўнікам і кумірам. Ураджэнец Шаркаўшчынскага краю, аднакурснік Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Васіля Зуёнка, Сымона Блатуна, ён, папрацаваўшы па накіраванні ў родных мясцінах, прыехаў у Полацк і прапісаўся душой тут на доўгія гады.

Памятаю адзін вельмі яркі эпізод з рэдакцыйнага жыцця. Гэта было ў пачатку сямідзясятых. Набліжаўся чэрвеньскі дзень, калі вернікі шанавалі памяць Ефрасінні Полацкай. У газеце Кірылавым быў падрыхтаваны невялікі матэрыял, у якім гаварылася пра асветніцкую дзейнасць заснавальніцы Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра. Адразу пасля яго з'яўлення пачаўся неверагодны вэрхал. Тэлефанавалі з гаркама, абкама партыі, Кірылава тут жа выклікалі пад светлыя вочы сакратара па ідэалогіі. Размова ішла ледзь не пра зняцце з працы.

Герман хадзіў змрочны, але засяроджаны і перажываў буру моўчкі. Праз тыдзень ён паказаў нам з Іванам Стадольнікам копію сваёй тлумачальнай, да якой была прыкладзеная завераная пячаткамі і аўтарытэтным подпісам даведка Акадэміі навук з аглядам асветніцкай дзейнасці Ефрасінні. Журналіст «адбіўся» ад мясцовых начальнікаў, для якіх іх славутая зямлячка была «манашкай» і « цемрашалкай».

Мы доўга не ведалі, што Кірылаў займаецца і літаратурнай творчасцю, пакуль ён не стаў паказваць нам са Стадольнікам свае апавяданні. А потым з'явілася першая кніжка, якую ён падарыў мне з дарчым надпісам, з'явіўся раман «Пах жыта», аповесць «Сонца тваіх вачэй», апавяданні «Татава пілотка», «Без крыўды ў сэрцы», «Адажыо», п'есы, нарысы. Але сапраўдным пісьменніцкім і журналісцкім подзвігам стала яго кніга «Гарт» — успаміны пасляваенных маладых беларусаў, якія прысвяцілі свае жыцці роднай старонцы, яе мове і культуры.

Пасля працы ў полацкай газеце Герман Кірылаў доўгі час быў уласным карэспандэнтам абласной газеты «Віцебскі рабочы», працаваў у заводскай шматтыражцы, узначальваў полацкае літаб'яднанне «Наддзвінне». Сёлета яму павінна споўніцца восемдзесят гадоў. Стаўшы родным, Полацк можа з цеплынёй віншаваць свайго шчырага, працавітага і сумленнага земляка.

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# Коласава зямля

Мясціны Якуба Коласа поўняцца жыццём і цяпер. Яны зззяюць хараством летняй, квітнеючай прыроды, захоўваюць традыцыі народнай культуры, заспакойваюць, натхняюць на роздум — і дзесьці ўнутры абуджаецца прага да родных песень, да добрых беларускіх вершаў... 8 чэрвеня споўнілася 50 гадоў з дня адкрыцця філіяла музея Якуба Коласа «Мікалаеўшчына», што ў Стаўбцоўскім раёне. Шаноўная дэлегацыя дзеячаў культуры, пісьменнікаў, кіраўнікоў музеяў, іншых неабыякавых людзей, шчыра ўлюбёных у паэтычнае слова Якуба Коласа, наведала радзіму песняра.



Фота Кастуся Дробава.

Калыска Якуба Коласа.

— Хтосьці сказаў, што жыццё пражыць — гэта як прайсці ад хаты да хлява. Таму 50 гадоў — гэта зусім нямнога, — заўважыла дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская. — Час бяжыць вельмі хутка. Але застаецца памяць пра людзей, якія зрабілі вялікі ўнёсак ва ўшанаванне і захаванне сваіх мясцін, якія прывівалі любоў наступным пакаленням да свайго, роднага. Такую вялікую справу зрабіў Якуб Колас... Калі б не яго шчырасць, адданасць, мы б не наведвалі сёння яго сядзібы. Але я вельмі ўдзячна і ўсім руплівцам спадчыны Коласа: гэта Марыя Міцкевіч, Яўгенія Міцкевіч, Алена Зернічэнка, Георгій Міцкевіч і многія іншыя.



Падчас сустрэчы ў сядзібе.

Дзякуючы клопату старэйшага сына Якуба Коласа Данілы Міцкевіча, першага дырэктара музея паэта ў Мінску, і яго наступнікаў Георгія Ткацэвіча і Зінаіды Камароўскай, былі аднаўлены і музеефікаваны сядзібы Акінчыцы, Альбуць, Смольня, Ласток. У свой час яны былі аб'яднаны ў Коласаўскі мемарыяльны заказнік, што сёння прадстаўляе мясціны Стаўбцоўскага краю, звязаныя з імем паэта.

Варта адзначыць, што сядзібы звязаны паміж сабой мастацкім комплексам драўляных скульптур «Шлях Коласа», створаным з ініцыятывы Стаўбцоўскага райвыканкама і музея Якуба Коласа ў 1990 — 1992 гадах. Сёння іх аднаўленнем і рэстаўрацыяй займаецца разьбяр Сяргей Кляшчук.

— Я з вялікай радасцю адкінуў усе клопаты і прыехаў на святкаванне юбілею Коласавых мясцін, бо мне тут надзвычай хораша, — адзначыў старшыня Саюза мастакоў Рыгор Сітніца. — Самы галоўны Коласаў скарб, які ён нам пакінуў, — гэта наша мова. Трэба задумацца, ці належным чынам мы абыходзімся з гэтым скарбам? Мы павінны памятаць, што ў апошні дзень жыцця пясняр занёс у ЦК КПБ ліст, у якім выклаў свае хваляванні пра стан роднай мовы. Але гэта было ў той час. А ці палепшылі мы нешта сёння, пасля Коласавага адыходу?.. Таму асноўная задача — каб нашы нашчадкі прыходзілі сюды, на Стаўбцоўшчыну, каб ведалі волата Бацькаўшчыны.

Ніна ШЧАРБАЧЭВІЧ

Працяг. Пачатак на 1-й стар.

## Фэст

# Звонкія цымбалы, залівісты гармонік

Ансамбль салістаў Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча стаў сёлета ўдзельнікам ХХ Міжнароднага фестывалю народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік», што адбыўся ў Паставах Віцебскай вобласці. Музыкі славутага калектыву прадставілі канцэрт беларускай і класічнай музыкі.

Але за тры фестывальныя дні гледачы і госці маглі пазнаёміцца з шэрагам праграм, што звяртаюць да вытокаў нацыянальнай культуры, як, напрыклад, «Душой народжанае слова» ці «Карагод народных талентаў», што знаёміць з калектывамі мастацкай самадзейнасці. Тэатралізаванае прадстаўленне «Музыка беларускіх палацаў і сядзіб» сабрала гасцей ля палаца Тызенгаўзаў. Вялікую цікавасць традыцыйна выклікае і конкурс сельскіх падворкаў «Пастаўшчына гасцінная». У гэтым маглі ўпэўніцца госці амаль з 10 краін свету, якія прыехалі паказаць свае майстэрства.

У фестывалі ўзялі ўдзел аматарскія ансамблі народнай музыкі, інструментальныя групы, фальклорныя інструментальныя калектывы і індывідуальныя выканаўцы на народных музычных інструментах. Для іх ладзіцца адмысловы конкурс «Хто каго?», дзе ёсць магчымасць паказаць сваё майстэрства. Але адметнасць фестывалю «Звіняць цымбалы і гармонік» у тым, што прафесійнае журы на чале з народным артыстам Беларусі прафесарам Міхаілам Казінцом ацэньвае творчасць усіх удзельнікаў. Для тых, хто атрымлівае дыпломы журы, і для тых, каму дастаюцца адзнакі публікі, важна адчуваць прызнанне той справы, што робіць: падтрымліваць дух беларускай (ці сваёй) народнай культуры, якая дала пачатак фарміраванню культуры народа ці нацыі. Тым больш што дзякуючы гэтым людзям — шчырым аматарам — народная культура працягвае існаваць у жывым асяродку звычайных людзей, грамадзян і пераймацца наступнымі пакаленнямі, яна з'яўляецца фонаўтваральнай для розных колераў культуры нацыянальнай.

Марыя АСІПЕНКА

# Таямніцы «Апостала» і «Малой падарожнай кніжкі»

**24 — 25 мая ў Полацку адбылася чацвёртая канферэнцыя «Беркаўскія чытанні». Канферэнцыя ладзіцца ў гонар кнігазнаўца і філолага Паўла Мікалаевіча Беркава, чыя кніжная калекцыя захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Навуковы форум (раз на два гады) мае і спецыяльную тэму. Сёлета чытанні былі прысвечаныя праблеме кніжнай культуры ў кантэксце міжнародных кантактаў, а асаблівую ўвагу надалі самай важнай для кнігазнаўцаў даце — 500-годдзю беларускага кнігадрукавання.**

Кожны год арганізатары Беркаўскіх чытанняў выбіраюць новае месца для навуковага форуму. Нядзіўна, што сёлета аддалі перавагу радзіме першадрукара Францыска Скарыны. Канферэнцыю прымаў Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік, які не толькі падрыхтаваў памяшканні для пасяджэнняў, але і арганізаваў для паўсотні гасцей-навукоўцаў багатую культурную праграму: экскурсіі па музеях і цэрквах ды арганны канцэрт у Сафійскім саборы.

Паўдзельнічаць у канферэнцыі выказалі жаданне больш за 140 чалавек («паслядоўнікаў Скарыны», як адзначыла ў сваім слове прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Ларыса Доўнар) з Балгарыі, Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны, Чэхіі і нават Францыі. Каля паловы ўдзельнікаў прыехалі ў Полацк, каб прадставіць свае даклады (дарэчы, два зборнікі дакладаў былі надрукаваныя да пачатку канферэнцыі, і з імі ўжо можна азнаёміцца ў бібліятэках). Тэмы выступаў разнастайныя: ад лёсу старадаўніх рукапісаў да перспектыў электронных бібліятэк.

Ключавой падзеяй канферэнцыі стаў міжнародны семінар «Францыск Скарына — асоба, дзейнасць, спадчына, сучасныя вобразы». Вядучыя кнігазнаўцы Усходняй Еўропы прадставілі сваё бачанне недаследаваных, таямнічых і спрэчных аспектаў біяграфіі беларускага першадрукара. У прыватнасці, адзін з гаспадароў канферэнцыі, дырэктар Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Аляксандр Груша паразважаў на тэму таго, што даў і чаму навучыў Францыска Скарыну Полацк. Скарына ганарыўся і ўсяляк падкрэсліваў сваё паходжанне, сцвярджае Груша. (Дарэчы, нядаўна расійскі гісторык Сяргей Палехаў знайшоў у дакументах аднаго з продкаў першадрукара — полацкага купца Грыдзька, які жыў у сярэдзіне XV стагоддзя.) Скарына цаніў Полацк, і нядзіўна: усе свае веды да 20 гадоў Скарына атрымаў у Полацку; ён пакінуў родны горад ужо сфарміраваным чалавекам, маючы, прынамсі, 22 — 25 гадоў. Сярод іншага, сцвярджае Груша, Полацк навучыў Скарыну мабільнасці — і ў выніку друкар лёгка адаптаваўся да чужога асяроддзя. Гарадское асяроддзе навучыла нашага першадрукара прадпрымальнасці — не так у плане матэрыяльным, як у сэнсе набыцця адукацыйнага і творчага капіталу. А самае важнае (рыса чалавека новага часу!) — Скарына навучыўся ў Полацку лаяльнасці да чужой культуры: яго родны горад быў зонай кантакту з заходняй цывілізацыяй: палачане часта кантактавалі з рыжанамі, многае пераймалі ў іх. Скарына не баяўся рызыкаваць і меў смеласць да навацый. І яшчэ адно: Полацк выхаваў у Францыску дэмакратызм — разуменне важнасці гарманічнага суіснавання ўсіх саслоўяў і далучэнне ўсіх да прыняцця істотных для горада рашэнняў.



*Сярод удзельнікаў канферэнцыі (у першым шэрагу, злева направа): Аляксандр Груша (дырэктар Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі), Сігітас Нарбутас (дырэктар Бібліятэкі імя Урублеўскіх Літоўскай акадэміі навук), Марыя Ермалаева (намеснік дырэктара навуковага і выдавецкага цэнтра «Навука» Расійскай акадэміі навук).*

Уразіў прысутных і наступны выступовец — дырэктар бібліятэкі Літоўскай акадэміі навук Сігітас Нарбутас. Ён прапанаваў экскурс у кніжны рэпертуар Вялікага Княства часоў Скарыны і разгледзеў 53 кнігі, падрыхтаваныя ўраджэнцамі ВКЛ. Францыск Скарына — славянскі першадрукар, але не варта забываць, што яговыя сугрaмадзяне таксама публікавалі кнігі, хоць і не на радзіме, а ў друкарнях Цэнтральнай і Заходняй Еўропы. Большасць гэтых кніг — рэлігійныя, найперш Біблія — Стары Запавет. На другім месцы сярод тэматычных блокаў — кнігі па паэзіі, рыторыцы, мастацтве. Нарбутас паказаў, што культурныя ўплывы прыходзілі ў Вільню часоў Скарыны не толькі з Польшчы, з Кракава, але і з Прагі, і з Кёнігсберга.

Калега і жонка Сігітаса Нарбутаса Дайва Нарбутэнэ прадставіла на круглы стол даклад пра паслядоўнікаў Скарыны. Яна адзначыла, што пасля Скарыны ў ВКЛ было выдадзена яшчэ 500 назваў кніг, большасць з якіх на латыні; больш за 200 — па-польску; кірыліцай — больш за 60 назваў; па 30 кніг — на нямецкай і літоўскай мовах, і нават па адной кнізе — на грэчаскай, італьянскай, латышскай, шведскай і эстонскай мовах. Скарына, з аднаго боку, паспрыяў разнастайнасці ў мове друкаванай кнігі, з другога — паказаў, што Біблія можа быць надрукавана на мове мясцовага народа, што не вязалася з агульнаеўрапейскай тэндэнцыяй — пашырэннем друку па-лацінску.

Яшчэ адна прадстаўніца Літоўскай дэлегацыі — Алма Бразюнэнэ —прадставіла незвычайнае даследаванне: параўнала Скарынаў «Апостал» з іншымі кнігамі, што выйшлі ў Еўропе ў тым жа 1525 годзе. Выявілася, што такіх «аднагодкаў» ажно 1356. Каб звузіць поле крыніц, даследчыца абмежавалася выданнямі з бібліятэк Літвы, такіх выявілася 39. З высноў і адкрыццяў можна назваць, напрыклад, тое, што толькі 5% разгледжаных кніг былі надрукаваныя ў два колеры — так, як «Апостал» Скарыны. Што да багацця афармлення, то арнаментыка прысутная ў большасці кніг, аднак Скарынаў «Апостал» — абсалютны лідар па колькасці элементаў арнаментыкі — 288 віньетак! Таксама даклад А. Бразюнэнэ абвяргае ідэю, што малы фармат «Апостала» сведчыць пра прызначэнне кнігі для хатняга чытання. Выявілася, што гэта была хутчэй даніна модзе: у тakім фармаце надрукаваныя большасць кніг 1525 года. Такі фармат сведчыў пра дэмакратызацыю кнігі і развіццё кніжнай справы.

Пра фармат і прызначэнне Скарынавай «Малой падарожнай кніжкі» (1522 года) паразважаў намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, культуролаг Алесь Суша. Бадай усе чулі назву гэтай кнігі, але мала хто можа яе расшыфраваць. А пад назвай хаваецца звычайны Псалтыр — адна з кніг Бібліі, — аднак дапоўнены Часасловам (паслядоўнасцю дзённых службаў) і іншымі рэлігійнымі творамі. «Малая падарожная кніжка» друкавалася для выкарыстання ў пачатковых школах і для прыватнага чытання. Фармат кнігі ў два разы меншы, чым фармат пражскіх выданняў, хоць дошкі і шрыфты выкарыстаныя старыя, прывезеныя з Прагі. Таксама Суша выявіў і праўобраз, кнігу, якая зрабіла найбольшы ўплыў на Скарыну-выдаўца «Кніжкі», — венецыянскі «Зборнік для падарожнікаў» 1520 года. І нарэшце — таямніца: не захавалася ніводнага цэлага асобніка «Малой падарожнай кніжкі»: пад 23 пераплётамі прадстаўленыя розныя па саставе зборнікі, і кожны ўнікальны.

На канферэнцыю завітала шмат расійскіх і ўкраінскіх даследчыкаў. Прычым паралельна з Беркаўскімі чытаннямі ў Кіеве адбываўся круглы стол, прысвечаны 500-годдзю Скарынавага першадруку. Наталля Бондар, кіраўніца аддзела Інстытута кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Украіны імя У. І. Вярнадскага, звярнула ўвагу на ўкраінскіх чытачоў Скарыны і расказала пра два канвалюты (зборнікі) кніг Скарыны, якія зберагаюцца ў бібліятэцы імя Вярнадскага (усе ахвотныя могуць пагдзядзець кнігі ў адсканаваным выглядзе на сайце ўстановы). Пра «свае» экзэмпляры расказала і Джаміля Рамазанава, загадчыца Музея кнігі Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі. Рамазанава выявіла асобнік Астрожскай Бібліі 1581 года, у які невядомы чытач уплёў рукапісныя аркушы, перапісаныя з Бібліі Скарыны. Прычым дапіскі напісаны на той жа паперы, на якой надрукавана Біблія, то бок зроблены былі ў той самы час. Далейшага даследавання патрабуе папера Скарынавых кніг, адзначыла спецыяліст па філігранях Наталля Бондар: ранейшыя сцвярджанні, нібы Скарына друкаваўся на кепскай, таннай паперы, не вытрымліваюць крытыкі — насамрэч папера Скарыны не адрозніваецца ад паперы іншых тагачасных выданняў. Па вадзяных знаках мы можам зразумець, адкуль Скарына пастаўляў паперу, выбудаваць новыя ланцужкі яго камунікацый.

Ва Украіне кнігі Скарыны захоўваюцца ў музеях Кіева, Львова, Адэсы, Ужгарада. Прычым сярод экзэмпляраў ёсць і друкаваныя выданні, і рукапісныя кнігі, якія ніколі не былі надрукаваныя. Апошні факт прывёў да з'яўлення версій пра тое, што нейкі перыяд жыцця Скарына мог правесці на тэрыторыі сучаснай Украіны: у Львове ці Крамянцы.

На круглым стале многа гаварылі не толькі пра самога Скарыну і яго дзейнасць, але і пра даследчыкаў-скарыназнаўцаў. Загадчык аддзела расійскага Цэнтра даследаванняў кніжнай культуры Дзмітрый Бакун адзначыў, што Скарына за некалькі стагоддзяў ператвраўся з не вельмі заўважнай фігуры ў выбітнага дзеяча, які вызначыў лёс культуры Беларусі на некалькі стагоддзяў наперад. А скарыніяна як навуковая дысцыпліна налета будзе адзначаць сваё 130-годдзе: даследаванні пачаліся з манаграфіі прафесара Кіеўскага ўніверсітэта Пятра Уладзімірава «Доктар Францыск Скарына, яго пераклады, друкаваныя выданні і мова». Манаграфія патрабуе перавыдання з сучаснымі каментарамі, а лёс першага даследчыка чакае асобнага вывучэння — нават дата яго смерці пакуль што невядомая. З Уладзімірава пачалося «трыумфальнае шэсце» вобраза Скарыны ў навуковай і папулярнай літаратуры даследчыкаў з Усходняй Еўропы. Таксама можна ўзгадаць пра гучнае святкаванне 400-годдзя беларускага кнігадруку ў Заходняй Беларусі і юбілейны БССРаўскі зборнік «Чатырохсотлецце беларускага друку» (датай адліку служыла выданне «Апостала» ў 1525 годзе). Зацішша ў скарыназнаўстве перарвалася бумам 1980 — 90-х гадоў, калі свае культавыя працы выдалі Георгій Галенчанка, Яўген Неміроўскі, Аляксей Каўка, Уладзімір Конан, Юрый Лабынцаў ды іншыя. На круглым стале прагучала прапанова стварыць гістарыяграфічны зборнік накшталт «Яны пісалі пра Скарыну», а таксама адпаведны біябібліяграфічны слоўнік — неабходнасць наспела.

Традыцыйна канферэнцыю арганізоўваюць дзве ўстановы — Цэнтральная навуковая бібліятэка НАН Беларусі і Цэнтр даследаванняў кніжнай культуры навуковага і выдавецкага цэнтра «Навука» Расійскай акадэміі навук. Але сёлета да арганізацыі далучыліся літоўскія кнігазнаўцы з бібліятэкі імя Урублеўскіх Літоўскай акадэміі навук. Літоўская бібліятэка прывезла ў Полацк сваю выстаўку «"Бібліі рускай" Францыска Скарыны — 500 гадоў». Экспазіцыя складаецца з дзевяці стэндаў з унікальнай візуальнай і тэкставай інфармацыяй: пісьменнасць у Вялікім Княстве даскарынавых часоў, асаблівасці біяграфіі і кніг Скарыны, памяць пра Скарыну ў Беларусі, Літве, Чэхіі ў наш час... Рэчавых крыніц на выстаўцы няма, аднак выявы і тэксты самі па сабе ўжо вельмі цікавыя. Напрыклад, можна пабачыць месцы, дзе жыў і працаваў Скарына. Можна параўнаць, якімі сродкамі і праз якія вобразы ўвасабляецца памяць пра Скарыну ў краінах Еўропы... Няма патрэбы доўга расказваць: у хуткім часе выстаўку абяцаюць паказаць у Мінску.

**Паліна СКУРКО**

*Фота прадастаўлена Цэнтральнай навуковай бібліятэкай НАН Беларусі.*

# ДУХОЎНАЕ ПОЛЕ АЙЧЫНЫ

**Вясной дружна ўзыходзяць пасевы. Шчодрыцца квецень і пускаецца ў рост маладое жыта. Сама зямля гаворыць пра нястомную спаконвечнасць жыццядайнае сілы, змушае агледзецца і прыняць сэрцам святлістую радасць нашага чалавечага бытавання пад сонцам. У веснія дні вельмі клопатна думаецца і аб духоўным полі роднай табе зямлі, аб тым, колькі на ім зроблена рупна і ўдала ўсімі тваімі папярэднікамі і колькі яшчэ патрэбна зрабіць, прыклаўшы нямала намаганняў, каб духоўная ніва Айчыны рунела і красавала, не зеўрала цьмянымі пляйстрамі ад перажытых нягод.**

Менавіта адным з такіх дбайных працаўнікоў на ніве айчыннай духоўнасці смела магу назваць Зіновія Прыгодзіча, аўтара кніжнай трылогіі «Постаці» (Выдавецкі дом «Звязда»), якая заняла ў апошнія гады годнае месца на кніжных паліцах. Ужо з першых палымянскіх публікацый было відаць, што пісьменнік-грамадзянін вядзе дыялог з самім новым часам, звяртаецца да жыццёвага і творчага досведу тых асоб нашай Бацькаўшчыны, каму выпала па абавязку таленту, грамадзянскай адказнасці і нацыянальнай свядомасці апынуцца ў ліку першапраходцаў на суверэннай дарозе гісторыі Беларусі.

Усіх суразмоўцаў аўтара мы добра ведалі і ведаем: гэта нашыя з вамі суайчыннікі і сучаснікі. Аднак мала заглыбляліся дасюль у іх асабісты жыццёвы свет, не заўсёды задумваліся над тым, колькі значыць і што пазначае іх духоўная прысутнасць у сённяшнім грамадскім жыцці, як можа прыдацца іх досвед будучым пакаленням. Мне вельмі прыемна адзначыць, што Зіновій Кірылавіч, як чалавек дасведчаны і праніклівы, дапытаўся ў кожнага: якую краіну ў цэнтры Еўропы мы маем сягоння, што варта памятаць з мінулага, чым патрэбна кіравацца, каб больш цвёрда і ўпэўнена рушыць у будучыню.

З вялікім захапленнем прачытаў я і трэці том гэтай своеасаблівай трылогіі. Ён таксама атрымаўся напоўніцу




шматгалосым: Генадзь Аўсяннікаў, Генадзь Бураўкін, Васіль Быкаў, Аксана Волкава, Аляксей Дудараў, Уладзімір Ліпскі, Ігар Лучанок, Георгій Марчук, Мікалай Пінігін, Леанід Шчамялёў. Знакавыя постаці нашай стваральнай сучаснасці. Некаторых ужо, на жаль, няма сярод нас. Але да кожнага варта прыслухацца і пачуць многае. Ёсць нават нейкі тужлівагаркавы прысмак запаветнасці — як малавата гадоў жыцця даецца на зямлі чалавеку! Колькі яшчэ маглі б зрабіць тыя, каго мы чуем сягоння праз ростань. Ад таго яшчэ большая наша чалавечная ўдзячнасць ім за здзейсненае, так своечасова пачутае аўтарам гэтае кнігі. Не ведаю, як іншых, а мяне цалкам пераканалі гэтыя лёсавыя старонкі: мы маем надзейны падмурак, тое духоўнае апірышча, на якім здолеем пабудаваць новы беларускі дом, які трывала выстаіць на ўсіх шквалістых вятрах гісторыі.

**Мікола МЯТЛІЦКІ**

# Назіральнік начнога неба

**У 2016 годзе споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння беларускага паэта, мастака, графіка Венанцыя Бутрыма (1936 — 2003). На жаль, яго вершы вядомыя сёння толькі вузкаму колу прыхільнікаў. А творчасць і талент В. Бутрыма сапраўды вартыя ўшанавання.**

Баранавічы — радзіма паэта. Схільнасць да мастацкай творчасці прывяла яго ў Мінскае мастацкае вучылішча, дзе з 1960 года ён не толькі вёў бесклапотнае студэнцкае жыццё, але і працаваў настаўнікам малявання ў адной з мінскіх школ. Уся астатняя працоўная біяграфія Венанцыя Бутрыма змесціцца, напэўна, у адзін радок: як прыйшоў у Баранавіцкі філіял Брэсцкіх мастацкіх майстэрняў мастацкага фонду БССР, так і дабыў там да пенсіі. Але за гэтым радком — жыццё, поўнае творчых здабыткаў, плённай дзейнасці. Венанцый Бутрым пачаў друкавацца ў літаратурнай перыёдыцы ў 1976 годзе: у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», калектыўным зборніку «Дзень паэзіі», абласной газеце «Заря»… У апошнія гады жыцця — у альманахах творчага згуртавання «Святліца», у зборніку «Агледзіны».



Венанцый Бутрым «Аўтапартрэт».

У 1973 годзе Васіль Быкаў у лісце да В. Бутрыма пісаў: «Я прачытаў усё, што Вы мне далі, і адразу скажу Вам, што Вы сталы літаратар, чалавек таленавіты і, відавочна, разумны. Вам трэба ўсур'ёз засесці за працу і рэалізаваць Вашыя магчымасці…».

І Бутрым пісаў. Аднак напісанае ім доўгі час не выдавалася. Толькі ў кастрычніку 2001 года з друку выйшаў яго першы зборнік вершаў «У барвах зямлі» і атрымаў станоўчыя крытычныя водгукі. Ухвальны артыкул пра кнігу змясціў у «ЛіМе» Леанід Галубовіч. А вядомая беларуская паэтэса Данута Бічэль-Загнетава, якая рэдагавала зборнік і якую цяжка, напэўна, нечым здзівіць у паэзіі, прачытаўшы рукапіс кнігі, пакінула на яго палях такі надпіс алоўкам: «Шэдэўр! Я плачу…». У 2003 годзе мелася пабачыць свет і наступная кніга. Але… замест шчаслівай нагоды — змрочная навіна. Да выхаду другога паэтычнага зборніка «Паралелі» (дарэчы, з выдатнымі ілюстрацыямі самога аўтара) Венанцый Вікенцьевіч не дажыў.

У 2011 годзе выйшла кніга прозы В. Бутрыма «Маўклівыя сумныя птушкі», у якой сабраны яго апавяданні, аповесці, эсэ. А апошнім пасмяротным выданнем стаў зборнік паэзіі «Дзён маіх лепшыя дні» (2014), таксама з ілюстрацыямі аўтара.

Асабліва значнае месца ў творчай скарбонцы Венанцыя Бутрыма займае патрыятычная лірыка. Яго любоў да роднай зямлі была не імпульсіўнай, а праніклёна асэнсаванай, роўнай, глыбокай і спакойнай, прачулай, вялікай, — і на ўсё жыццё. На гэтую любоў ніяк не ўплывалі эканамічныя ці палітычныя абставіны, асабістыя душэўныя крызісы ці павевы моды. Яна была з прадоння вякоў, ад прашчураў, ад адчування сябе Божым стварэннем з розумам, нервамі, душой, што прагне наталіцца харством.

Паэтычная мова В. Бутрыма пазбаўленая шаблонаў і штампаў. Яго вершаваны радок арыгінальны, з толькі яму ўласцівай рытмікай, з толькі яму ўласцівым спакойным роздумам і нечаканым мастацкім параўнаннем, зусім не трафарэтным, не зацёртым на тысячу ладоў іншымі, а народжаным асаблівай канструкцыяй паэтычнага бачання менавіта гэтага чалавека. Таму, без сумнення, можна гаварыць пра непаўторны паэтычны почырк Венанцыя Бутрыма, пра яго арыгінальную творчую манеру.

Пейзажныя замалёўкі Венанцыя Бутрыма ўяўляюць сабой вершы-асацыяцыі, вершы-метафары, нечаканыя ў параўнальнай значнасці і вострай назіральнасці.

Адзін з самых распаўсюджаных вобразаў у пейзажнай лірыцы паэта — вобраз начнога неба. Аўтар — тонкі, затоены назіральнік вячэрніх і начных праяў жыцця. Яго вабяць няясна выяўленыя, поўныя імпрэсіі паўтоны і паўфарбы таемнага часу сутак, які прызначаны самім Тварцом для мараў, летуценняў, прарочых сноў:

*Дужы вечар ночы чакае —*
*Песні-явы, сноў чыстых.*
*Прыпыніўся, маўчыць, прамяністы.*
*І ўсмешка па твары блукае…*

Мова паэта вельмі багатая на фарбы, і палітра гэтых фарбаў даволі кантрасная. Відаць, паўплывала тое, што Венанцый Вікенцьевіч быў яшчэ і добрым мастаком, які займаўся і жывапісам, і графікай. Спалучэнне графічнасці і разнаколернасці праяўляецца іншы раз і ў яго вершах. Для прыкладу возьмем дзве страфы з верша «Сонны спакой неглыбокай вады»:

*Сонны спакой неглыбокай вады,*
*Звонкія россыпы лотаці.*
*Крок прыпынілі, ўброд ідучы,*
*Вольхаў празрыстыя постаці.*
*Жоўты на чорным, зялёны з травы —*
*Парасткаў новае брацтва — …..*
*…Захад — размыты на срэбры кармін.…*

А вось замалёўкі зімовага пейзажу: «Ў долах — бы клічнікі ўбіты — / з-пад снегу мёртвае сучча», «…сеюцца, сеюцца крупы бялюткія, / ладзяць ніты пад аснову святла». Не абмінуў паэт увагай і разнаколернасць, багацце, раскошу восені:

*Кастрычніцкая яснасць!.. Як праз шкло*
*Прамытае не раз да таўшчыны*
*належнай,*
*Ільецца створанае вечнасцю святло,*
*Сатканае з журбы і радасці бязмежнай.*

Менавіта восенню *«парадзеў мой асінавы гай, / сцеле хрусткую чырвань пад ногі…»*, *«россып верасу, склаўшы зарок, / сінім полымем кліча здалёк...»*, *«лісце ў скрусе ўсцілае дол»*, *«вось жнівень дабівае дні, / і хутка астры дацвітуць на карані… / ужо неба пачало хіліцца долу, / твар месяца зліняў ад смутку і турбот…»*, *«двух дзён хапіла, каб страціўся / ліп далікатны ўбор»*.

> *У 2011 годзе выйшла кніга прозы В. Бутрыма «Маўклівыя сумныя птушкі», у якой сабраны яго апавяданні, аповесці, эсэ. А апошнім пасмяротным выданнем стаў зборнік паэзіі «Дзён маіх лепшыя дні» (2014), таксама з ілюстрацыямі аўтара.*

Усе падзеі ў жыцці паэта непарыўна звязаны з прыродай. У яе мудрасці ён шукае адказы на загадкі жыцця, ёй нясе свае трывогі, сумненні, неспакой, у яе просіць парады, ад яе чакае мудрага заспакаення і збавення ад трывог. Гады свайго жыцця ён перакладае на назвы месяцаў, таму што спакон так павялося: кожная пара года ўвасабляе пэўны этап чалавечага быцця.

У Яўгеніі Янішчыц ёсць такія радкі: «Смерці ў паэта няма, ёсць — нараджэнне!». Каб паэт заставаўся побач з намі, трэба чытаць, перачытваць яго вершы.

*Мяне ўжо не будзе. А гэты месяц,*
*Святлом наліты, як болем,*
*Узыдзе нячутна над чорным лесам*
*Плысці паважна над полем.*

І гэты месяц, і «ля брукаванкі буйна шыпшына», і «верас дробны», і цёплы вечар, «…там, за вадою, што светлыя пяскі» няхай напамінаюць нам, што на зямлі Баранавіцкай побач з намі жыў паэт, мастак, які бачыў хараство, што ўсюды навокал, і хацеў навучыць і нас бачыць гэта.

**Вольга ЖЫГАР**

# Моцарт у беларускай літаратуры


*Рыгор Семашкевіч, 1964 г.*

**Сёлета пабачыла свет кніга «Выбраныя творы» Рыгора Семашкевіча, якая сталася 89-м томам кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор». Укладальнік выдання — Наталля Семашкевіч, удава пісьменніка. Лёс Рыгора Міхайлавіча трагічна абарваўся ўлетку 1982 года, на трыццаць сёмым годзе жыцця, на ўздыме таленту. А талент вызначаўся шырынёй і шматграннасцю: творца паспеў праявіцца і як паэт, і як празаік, і як літаратуразнаўца, і як крытык-эсэіст. Усе пералічаныя жанры, у якіх працаваў аўтар, прадстаўлены ў «Выбраных творах».**

## Вытанчанасць радка

Вершы, што ўвайшлі ў раздзел «Паэзія», былі напісаны з 1961 па 1974 год. А першая публікацыя з'явілася ў 1960-м, калі паэту-пачаткоўцу было ўсяго чатырнаццаць. Агульная рыса творцаў, якія прыйшлі ў літаратуру ў шасцідзясятых, — смеласць і разняволенасць, і Р. Семашкевіч не выключэнне. Сёння можна толькі захапляцца тым, з якой іроніяй, дакладнасцю і яснасцю ён сфармуляваў асноўную праблему айчыннай літаратуры (верш «Аўтабіяграфія», 1968 г.):

*Стаў студэнтам, хадзіў хоць калі*
*на лекцыі.*
*Слухаў такое: «У цэнтры творчасці*
*класіка эн,*
*У яго геніяльных паэмах і вершах*
*стаіць мужык".*
*Пяць год у цэнтры стаяў і стаяў*
*той мужык.*
*Хоць бы прысеў ці прылёг.*

Хаця іронія — неад'емная рыса творчасці Семашкевіча, у паэзіі яна не галоўная. Творца не імкнуўся да яе, наадварот, яна — ад шырыні яго жыццёвага досведу, кругагляду, як «пабочны прадукт» дзейнасці. Яна не замінае яму быць сур'ёзным і сталым з юнацтва.

Вось як паэт вызначае сваё крэда:

*Як запаветнае ў душы нясу*
*І шчасце свету, і ўсю бездань болю,*
*І матчыну гарачую слязу,*
*І ціхі шэпт параненай таполі.*

*Ніколі мне ад тых трывог і бед*
*Не уцячы, нідзе мне не падзецца.*
*На сто часцін расколваецца свет,*
*А трэшчыны усе ідуць праз сэрца.*

(1964)

Гавораць, што шчасце — гэта не канцавы прыпынак, куды кожны імкнецца, а шлях, пераадоленне. Тое, што знаходзіцца не вонкі, далёка ці блізка, а ўсярэдзіне, у душы, і не залежыць ад знешніх абставін. Праўда, разумееш гэта звычайна толькі ў сталасці. Але для пасляваенных дзяцей сталасць пачалася рана. Наступныя радкі, якія паэт напісаў у васямнаццаць-дзевятнаццаць гадоў, свецяцца адчуваннем шчасця і жыццёвай мудрасцю:

*Спяць дарогі, вербы ля ракі.*
*Я не сплю. І ціхі сум і змора.*
*Хай бы ў сад залезлі хлапчукі,*
*Абтраслі і яблыкі і зоры.*
*Хай бы кожны тут мурог таптаў,*
*Страх свой пасылаючы да д'ябла.*
*Я ж бы і сабаку патрымаў —*
*Свету не шкада ім, што там яблык.*

(1963)

Р. Семашкевіч — надзвычай тонкі лірык. Рамантык, але не таму, што бачыць усё ў ружовым святле. Ён не проста верыць у лепшае, але гатовы прысвяціць сябе служэнню (і яго жыццё таму прыкладам), каб у бітве паміж цемрай і святлом перамагло святло:

*Беларусь, мая маці! Ты будзеш,*
*адзіная, жыць!*

(Верш «Апошняя ноч Каліноўскага», 1967)

Нездарма Рыгора Семашкевіча параўноўваюць з Моцартам. Ад вачэй чытача схавана напружаная чарнавая праца, відаць толькі віртуознасць, вытанчанасць, лёгкасць у падачы думкі. Вось прыклад таго, як аўтар сціплымі сродкамі стварае яркі праўдзівы вобраз:

*Якія дакоры*
*Бываюць у гора?*
*Імжыць праз гады сіратлівы*
*пагляд.*
*На ўсю Беларусь мільён пракурораў*
*І толькі адзін, толькі ён адвакат.*

(Верш «Францішак Багушэвіч», 1967)

## Важкія кроплі сэнсу

Проза прадстаўлена ў выданні аўтабіяграфічнымі аповесцямі: «Лічыла дні зязюля…», «Бацька ў калаўроце», «Ясень», а таксама эсэ «Світка Буйніцкага». Першая, напісаная ў 1966 — 1967 гадах, апавядае пра настаўніцкі досвед аўтара, калі ён пасля сканчэння філфака БДУ, у 1966-м, настаўнічаў на вёсцы. У гэтым творы выявіліся характэрныя для ўсёй наступнай прозы пісьменніка рысы: дасціпнасць, гумар, назіральнасць, любоў да людзей, дзяцей, сваёй працы; сакавітая, жывая, вобразная мова. Распавядаецца пра вясковае жыццё, але зусім не нудна: і парашуты, і ловы хлопца, якія не хадзілі ў школу, і табліца дзеясловаў, і зязюля, і злосны любоўны жарт — усё на сваім месцы і да месца. Развагі аўтара раскіданыя, як кроплі — там-сям, вельмі дазіравана, — і не выклікаюць жадання хутчэй перагарнуць старонку. Ёсць нечаканыя знаходкі і параўнанні: «*За акном здрадліва ціхая, як дзіця ў сне, восень*»; смешныя сцэны з жыцця звычайных вяскоўцаў; разуменне маладым пісьменнікам асабістай адказнасці за лёс сваіх суайчыннікаў і занепакоенасць будучыняй вёскі (на момант заканчэння аповесці аўтару было дваццаць два гады). А таксама своеасаблівая філасофія: «*У небе, роўна над сваёй галавой, злавіў позіркам, хоць не адразу, Мядзведзіцы. Сем зорак. Агністая спайка. У маленстве гэты коўш повен таямнічых казак і легенд. Цяпер гэтыя зоркі здаліся падобнымі больш на пытальнік, чым на коўш. Цікава. Вечны пытальнік над зямлёй*».

Аповесць «Бацька ў калаўроце» (1972 — 1974 гг.) лічыцца ўзорам гумарыстычнай прозы (у адным шэрагу з «Запіскамі Самсона Самасуя» А. Мрыя). Аўтар распавядае пра перыяд уласнага жыцця, калі ён быў аспірантам філфака БДУ і жыў ва ўніверсітэцкім інтэрнаце. Як не раз адзначалі сябры пісьменніка, усе персанажы твора, у тым ліку і галоўны герой Бацька, мелі сваіх прататыпаў. Хаця для мастацкай літаратуры істотна іншае: усе вобразы вельмі тыповыя: ад шараговага супрацоўніка кафедры падхаліма Цвыркуна да паэта альбо вясковага музыканта-баяніста Міхалкі (якія абмаляваны ўсяго некалькімі «мазкамі», але вельмі ярка і характэрна).

Жыццёвая мудрасць і назіральнасць у аповесці спалучаюцца з трапнай іроніяй і досціпам. Вось як разважае хутаранін, паэт-самавук Мацей Бубен: «*Толку з іх, з грошай. …Грошы здабываюцца скарэй, чым чалавек перарабляецца на лепшае. Ва ўсіх тэлевізары, машыны, што транты мыюць, равары, мацыклеты* (менавіта так напісана ў тэксце. — **Т. Б.-Б.**), *а спытай у другога — адкуль усё гэта? — не скажа, бо не ведае. Ды і ці паразумнеў ён ад гэтага тэлевізара? Глядзіць, як баран, — і ўсё. А ўжо што п'янства, распуста пайшла… Па праўдзе сказаць, мужык любое гора выцерпіць, а дастатак яму цяжка пераносіць*».

Няскончаная аповесць «Ясень» (1980 — 1982 гг.) — твор, над якім аўтар працаваў у апошнія гады. Стылістычна яна адрозніваецца ад дзвюх папярэдніх: няма ўжо маладога непрыхаванага аптымізму, запалу, гарэзлівасці. Энергетыка тэксту (не літаратуразнаўчы тэрмін, але мы ўкладаем у гэта паняцце эмацыйнае ўздзеянне на чытача — тое, як тэкст чытаецца і ўспрымаецца. — **Т. Б.-Б.**) не такая лёгкая, як у ранейшай прозе, — больш «густая» і важкая. Ясень як сімвал самага дарагога і страчанага; сімвал бескламотнага дзяцінства. Дрэва расло за сценкай вясковай хаты, дзе жыў хлопчык, але служба зелянтрэста выкупіла дрэва, і яго перавезлі ў горад... Гэта аповесць пра сталенне. Галоўны герой Сяргей, ужо дарослы, раз-пораз вяртаецца ў дзяцінства і перажывае яго наноў. Апошняя сцэна, апісаная ў творы, — сцэна пахавання. «*Паклон табе, трава, паклон, бо як ні носімся з сабою — усе мы ляжам пад табою...*» — разважае аўтар напрыканцы. «*Ранняя ноч… Дажджавеюць і кіпяць маладыя яблынькі за акном…*» — заключныя, недапісаныя радкі. Што паспеў пабачыць творца ў сваю апошнюю ноч на 11 чэрвеня? Якімі дарогамі, праз якія яшчэ разлукі меўся правесці свайго Сяргея?

## Грані таленту

Семашкевіч-даследчык і Семашкевіч-журналіст былі не менш таленавітымі, чым Семашкевіч-пісьменнік. У выданне ўвайшло эсэ «Світка Буйніцкага», дзе распавядаецца пра сустрэчу аўтара з Іванам Голерам, акцёрам з трупы Ігната Буйніцкага, заснавальніка беларускага прафесійнага тэатра; пра пошукі магілы Алеся Бурбіса, які выступаў побач з Цёткай на самадзейных сцэнах перад простым народам па беларускіх вёсках.

У літаратуразнаўчым артыкуле «Не згаснуць зоркі ў небе» разглядаецца дзейнасць Янкі Купалы ў «Нашай ніве» спачатку ў якасці супрацоўніка рэдакцыі, а потым на пасадзе галоўнага рэдактара; па матэрыялах (і ў тым ліку вершах Купалы), што друкаваліся ў выданні,аналізуеццатагачаснаягрstatic грамадска-палітычная атмасфера.

Грунтоўная праца «Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX — пачатак XX ст.)» — першая кандыдацкая, абароненая ў нас па адпаведнай тэме. Яна вымагала ад даследчыка пэўнай смеласці, бо ў тыя падцэнзурныя часы лічылася небяспечнай. Тут праявіўся талент Р. Семашкевіча і як навукоўца: яго скрупулёзнасць, дапытлівасць, інтуіцыя і логіка. Аўтар прааналізаваў дзейнасць суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», гуртка беларусаўнародавольцаў «Гоман», «Беларускага літаратурна-навуковага гуртка студэнтаў Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта»; паказаў ролю ў справе беларускага адраджэння Браніслава Эпімах-Шыпілы, Адама Гурыновіча, Францішка Багушэвіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Купалы.

Рыгор Семашкевіч зацікавіўся гісторыяй айчыннай літаратуры, калі яшчэ вучыўся ў школе. Як згадвае яго сябар, пісьменнік Алесь Жук у прадмове да кнігі, у Маладзечанскай бібліятэцы юны Семашкевіч пазнаёміўся з Міколам Ермаловічам. Знаёмства са знакамітым даследчыкам спрыяла абуджэнню яшчэ большай цікавасці школьніка да гісторыі — ён пачаў збіраць па вёсках старыя заходнебеларускія выданні.

Як крытык Р. Семашкевіч звярнуў пільную ўвагу на творчасць Р. Барадуліна («Ганчарны круг паэта», 1980 — 1981), адчуваючы з ім духоўную блізкасць. Нягледзячы на тое, што Р. Барадулін быў тады ўжо знакамітым, Р. Семашкевіч заўважыў і пэўныя недахопы ў яго вершах. Крытык сачыў і за творчасцю Я. Янішчыц («Выпрабаванне любоўю», 1978) і Н. Мацяш («Адчуванне шляху», 1980). Творы іх прайшлі выпрабаванне часам і сёння названыя паэтэсы — адны з самых вядомых сярод сучасных беларускіх пісьменніц, што сведчыць пра выключны літаратурны густ і чуццё Семашкевіча-крытыка. Яго працы паўплывалі на развіццё сучаснай крытыкі і літаратуразнаўства — яны лічацца хрэстаматыйнымі. Іх цікава чытаць, бо ў тэксце няма месца для акадэмічнай нуды, усё коратка і ясна, па справе; здзіўляе вастрыня і адточанасць думкі.

Рыгор Семашкевіч быў адораным пісьменнікам, даследчыкам, крытыкам. Застаецца толькі ўяўляць, як мог бы расквітнець яго талент, калі б пражыў больш.

***

*…Стараўся не плакаць на ветры*
*і на марозе,*
*Нідзе не плакаць,*
*Але прызнаюся: праз гэта ў сэрцы*
*Некалі знойдуць не золата, не серабро…*
*Толькі якое шчасце — змайструем плыт*
*і паплывём на Віллі.*
*А плыт калыша. Ляжы і слухай*
*Дыханне ракі і дыханне друга.*

Так пісаў Рыгор Семашкевіч у вершы «Аўтабіяграфія» ў 1968 годзе. Слухаючы гэтыя радкі паэта, можна сапраўды набліжацца да разумення сваёй зямлі і самiх сябе.

**Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ.**

*Фота з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.*



## Соф'я ШАХ

# АДБІТКІ

Вянок санетаў вольны

**1**

*Далёка за далечынёю,*
*за высцю высока-высокай,*
*за шырру шырока-шырокай,*
*за часавай шчыльнай сцяною,*
*за летняй, за тысячнай спёкай,*
*за ўжо незлічонай вясною,*
*за сіняй яе сінізною,*
*за волкай яе павалокай,*
*за соценна-сотай зімой,*
*за восенню лікам такой,*
*што лічба і векам прыкрыта,*
*і нават за ўжо за самой*
*адлегласцю, так, незямной —*
*маленства-дзяцінства арбіта.*

**2**

*Маленства-дзяцінства арбіта,*
*бадай, усю цягу зямлі*
*сумела адолець, калі*
*злучылася з вечным зенітам.*
*Радзімыя не ўберажлі*
*мясціны свяшчэнным блакітам, —*
*памчалася дзесь к цэфеідам*
*на зорныя лугі-палі...*
*А самазабыўным святлом*
*свяціла і ноччу і днём,*
*і цешыла фарбаў палітрай.*
*Ды час — то крадком, то хапком —*
*з жыцця нібы выпхнуў сілком...*
*Як многае мною забыта!*

**3**

*Як многае мною забыта!*
*Як слаба ўспаміну ўспамін*
*нагадвае быль кругавін,*
*паглынутых колісь нябытам!*
*А іх жа — як тых каляін,*
*што спадчынна, нібы магнітам,*
*прыцягвалі цнотай і дыхтам*
*праз полымна ўзняты няўпын.*
*Са згадак бяспамятных тых,*
*што спешна забылі зрок-слых,*
*схаваўшыся за даўнінёю,*
*была б не аповесць мо з іх,*
*а песня на выдых і ўдых...*
*Як помніцца многае мною!*

**4**

*Як помніцца многае мною!*
*Як плачацца часта па ім,*
*па згубленым, любасным тым,*
*што сталася велічынёю!..*
*І не параўнаць ані з чым,*
*і не абазначыць цаною, —*
*любая з іх будзе маною,*
*а то і насмешкай зусім.*
*Напружу расчулены зрок,*
*у скронях адчую штуршок*
*чароўным гатоўным іспытам —*
*і злёгку адкрыецца змрок,*
*і выбліснe сонцам выток...*
*Пражытае так пeражыта!*

**5**

*Пражытае так пeражыта!..*
*Былое так поўніла быль!..*
*І ласціўся вулічны пыл*
*да ног трапяткім аксамітам...*
*Лагодзіў у сажалцы іл,*
*і торф аж спружыніў нібыта,*
*і гліна цвіла каларытам*
*з усіх сваіх вохрыстых сіл.*
*А Вішанькі-Вішы той жвір,*
*дзе самы закручаны вір,*
*зусім не здаваўся жарствою.*
*І плыні гуллівая шыр*
*у небе — праз сіні эфір —*
*так грэла адбіткі сабою...*

**6**

*Так грэла адбіткі сабою*
*між воблачна-зыбкіх мярэж,*
*што мройна зірнеш — і плывеш*
*па небе за ўласнай душою.*
*Ані перашкод, ані меж, —*
*разліта сінеча ракою,*
*і вейна кранаеш рукою,*
*ўдыхаючы спеўна яе ж.*
*У вышніх адбітках наўкруг —*
*і поле, і дрэвы, і луг,*
*і цені паміж травастою...*
*Так распачыналі свой рух,*
*што й зараз віруе той дух,*
*што й зараз адбіткасцю тою...*

**7**

*Што й зараз адбіткасцю тою*
*мае высвячаюцца дні*
*на самай іх злой вастрыні,*
*далёкай ад цішы-спакою...*
*Збавіцельна між мітусні*
*амаль падабенства і строю,*
*і ладу ўзнаўляюць праз мрою*
*адбіткасці той прамяні...*
*А ўжо калі нікнуць сляды*
*васёлкавай той міламы*
*і дзень памутрые са спрытам, —*
*нібы каля скрухі-бяды,*
*нібы ля чароўнай брыды,*
*жыву-існую хваравіта.*

**8**

*Жыву-існую хваравіта,*
*але скрозь таюся, таю,*
*ды нават калі там стаю,*
*дзе быт і не быў дабрабытам.*
*Але я сябе пазнаю,*
*але са сваім я візітам*
*непадуладная крыўдам,*
*адну толькі думку сную:*
*вярнуць бы, вярнуцца ў той час,*
*калі грэў агмень і не гас,*
*а я ўсё — сама сабе, нішкам,*
*нібы й не расла паміж паўз*
*прасветла-гаючых штораз, —*
*малютка, малеча, малышка...*

**9**

*Малютка, малеча, малышка, —*
*урэшце, сама гарката,*
*урэшце, сама змрачната,*
*і ўсё мне было — закавычкай.*
*З сабою сама не ў ладах,*
*сама сабе як невідзімка,*
*таемніца і нелюдзімка*
*у пасляваенных гадах.*
*Нібы не хапала цяпла,*
*нібыта хацела святла*
*якогась нязнанага лішку...*
*Ды цяміць бы штось пачала*
*у сціснутых межах жытла —*
*ў запечны, ў закутку, ў зацішку.*

**10**

*Ў запечны, ў закутку, ў зацішку, —*
*ніхто там не перашкаджаў*
*рабіць між няхітрых забаў*
*у марах сваіх пераклічку.*
*Аматарка шустрых праяў,*
*трапляла не раз у сутычку,*
*мацуючы ўпартую звычку, —*
*на тое хапала падстаў.*
*А свет пашыраўся паволі,*
*і болела цямлівай волі, —*
*ён бачыўся ўжо не з-за шыб.*
*Узрост неўзаметку дазволіў*
*сябе выяўляць у ваколлі —*
*за хатай, за вулкай, між ліп.*

**11**

*За хатай, за вулкай, між ліп,*
*між тых, яшчэ саджаных панам, —*
*здаваўся ўжо музыкай тайнай*
*у кронах размераны рып.*
*Была і нябесная манна*
*за вулкай, паблізу сядзіб:*
*дзе сажалкі ясніўся німб,*
*дзе ўспыхвала наша нірвана.*
*А мы — машкара-дзетвара,*
*а нам і любая мура —*
*ад розных нягод перадышка.*
*Мая там зіхцела зара,*
*мае там вытокі дабра.*
*Я ўжо — ў пачуццях, у кніжках.*

**12**

*Я ўжо — ў пачуццях, у кніжках, —*
*хаваю свой там беспрытул,*
*як вокал — стыхіі разгул,*
*віхроўя-вятроўя скавышка.*
*Ужо ўсведамляю тугу,*
*ужо заўважаю, як зінчка*
*душы маёй, нібы сястрычка,*
*у небе гарыць на ляту.*
*Дзяўчынка, дзяўчо, мклівы птах,*
*здзіўленне ў наіўных вачах, —*
*як бы й не была замухрышкай...*
*Ды раптам нібыта ў зігзаг*
*патрапіў наладжаны шлях —*
*і знікла маленства, бы ўспышка.*

**13**

*І знікла маленства, бы ўспышка,*
*і следам агеньчык патух,*
*што дух ратаваў мне ад скрух, —*
*далёкага поля ўладыка...*
*Пад выгукі ўсіх ветрафуг*
*той бераг эпохі вялікай*
*ад часавых чэпкіх абдымкаў*
*і прах свой развеяў, і пух.*
*Ні хаты, ні сажалкі. Травы.*
*Ні ліп, ні буслоў. Іх вывы*
*запоўнілі памяці глыб.*
*І часу ніякае справы,*
*як бы і не быў ён яскравы,*
*а блікаў дасюль коціць зыб.*

**14**

*А блікаў дасюль коціць зыб...*
*Мігценне, зіхценне, дрыжанне,*
*знікненне, блуканне, вяртанне,*
*і ўсхліп, і за ўсхліпам усхліп.*
*Люлянне, гайданне, злянне,*
*наплыў, згіб і выгіб, разгіб,*
*і рокат, і воклік, і скрып —*
*і вырысы адлюстравання*
*дажджоў, снегападаў, вятроў,*
*туманаў, адліг, капяжоў,*
*заранак над той стараною,*
*што ў плыні жыццёвых азоў*
*няўзнак павярнуліся зноў*
*далёка за далечынёю...*

**15**

*Далёка за далечынёю*
*маленства-дзяцінства арбіта...*
*Як многае мною забыта!*
*Як помніцца многае мною!*
*Пражытае так пeражыта,*
*так грэла адбіткі сабою,*
*што й зараз адбіткасцю тою*
*жыву-існую хваравіта.*
*Малютка, малеча, малышка —*
*ў запечны, ў закутку, ў зацішку,*
*за хатай, за вулкай, між ліп.*
*Я там — у пачуццях, у кніжках...*
*І знікла маленства, бы ўспышка,*
*а блікаў дасюль коціць зыб.*

---



## Ізяслаў КАТЛЯРОЎ

***

*Сэнс прадчуванняў, — страшна ў іх*
*не памыліцца.*
*Маўчу, маўчу... І кожны міг*
*сябе баіцца.*
*Жыцця я столькі перамог,*
*каб жыць застацца!*
*І ведаю: калі б не Бог...*
*Пара прызнацца.*
*Але ці змог — што абяцаў*
*Яму ў малітвах?*
*Так сілай духу бедным стаў*
*ў сумневах скрытных...*
*Я столькі насупроць рабіў*
*і яве мілай,*
*што ёсць, як ворагі, сябры, —*
*іх асляпіла.*
*Страх — прадчуванні ўсведамляць, —*
*я ў іх палоне.*
*Ну, вось імкнуцца зноў даймаць...*
*Не дай, Гасподзь, мне!*

***

*Быў я раннім, стаў я познім,*
*ў кроках жа — уздым.*
*Далеч бліжай — лесам, полем,*
*лонам лугавым.*
*Забываю, забываю, —*
*горасна прыцях, —*
*што сябе я аддаляю,*
*хоць і бліжу іх.*
*Буду полем, буду лугам,*
*лесам і ракой,*
*гэтым сінім вось паўкругам*
*неба нада мной.*
*Буду шолахам я жалю,*
*бегам хваль, бы хвіль,*
*буду гэтай далі даллю*
*там, дзе небасхіл.*
*Бы жыццё стом не спазнала, —*
*дзень да дня імкне...*
*Ды сцяжа лятучай стала —*
*і нясе мяне...*

***

*Святло зноў гасне ў полымным акне, —*
*не стала аддалення аддаленню...*
*Я ведаю ўжо сам: пара і мне*
*у мудрацоў вучыцца адмаўленню.*
*Пара, пара адкрытае хаваць,*
*пара няведаннем не здраджваць ведам,*
*калі нерасказана сказаць,*
*ды ўсё ж паверыць адмаўленням гэтым.*
*Няўжо і Гегель быў ідэаліст*
*і толькі адмаўленнем — дыялектык?*
*Кружэлку стаўлю — музыкаю Ліст*
*адкажа, пазбягаючы канкрэтык.*
*Які ты, зорка, падаеш мне знак?*
*Сваім гучаннем сам ужо нямею...*
*І «не» сказаць жадаемаму «так»*
*яшчэ не ўмею, ўсё яшчэ не ўмею.*

***

*Не тым, напэўна, даражыў,*
*напэўна, і не тое множыў,*
*ды ўсё пражыў, што пeражыў,*
*і пeражыў усё, што дожыў.*
*Што засталося — пражыву,*
*пeражыву, як Бог дазволіць,*
*дзе вецер пыльную траву*
*ці лашчыць так, ці то нявoліць...*
*Што ж усміхаюся, дзівак,*
*мкнучы ў абсяг пустога поля?*
*Мо лашчыць і мяне вось так*
*жыццё — усё-такі няволяй?*
*Яму хацеў я паслужыць.*
*На існасць толькі мо падобна...*
*І мне пражыць ці пeражыць —*
*цяпер аднолькавасцю роўна.*

***

*А водбліск сонца на сцяне, —*
*ён дыхаў... І пакой — таксама...*
*Шкло, зіхатлівае ў акне,*
*зіхценню ўжо не замінала.*
*Я адвярнуўся ад акна, —*
*зрок ратаваў, а спальваў розум,*
*і стала існасцю віна,*
*што даравацъ павінен лёсу.*
*Сцякалі цені там, дзе столь,*
*і полымя гасіць хацелі,*
*а я здаля сачыў праз боль,*
*як думкі ўсё яшчэ гарэлі,*
*якім не дадзена жыць зноў,*
*якім зацеснай стала хата...*
*І сонца ў яркае акно*
*ўваходзіла нейк вінавата.*

***

*Ва ўсім такая непахіснасць,*
*што замаўкаю і маўчу, —*
*так стала яўнай немагчымасць*
*таго, што ёсць, чаго хачу.*
*Здавалася б, усё звышпроста,*
*раз ёсць і сам хачу таго,*
*ды зноў іду я ў гай узнёслы —*
*пабыць сам-насам між яго.*
*За ветрам неяк бы няўклюдна*
*спрабуе мкнуць дарожны пыл...*
*Ну як жа так, што недаступна*
*і тое нат, што ёсць нібы?!*
*Я пыл як быццам абганяю,*
*а ён да ног сябе хіне...*
*І недаступнасць спасцігаю*
*таго, што ўсё ж належыць мне.*

***

*Так хочацца забыць,*
*так хочацца забыцца*
*і быць, і быць, і быць, —*
*нязбытнасцю — а збыцца.*
*І ведаць, што ўвесь жаль —*
*для будучага жалю.*
*І ведаць: гэта даль —*
*зноў для працягу далі.*
*Не-не, не так! Маўчу.*
*Баюся шчэ прызнацца...*
*Сышоўшы ў змрок, хачу*
*сабою тут застацца,*
*каб у любві, журбе,*
*спяшаючы за доляй,*
*мог пeражыць сябе,*
*а значыць, — і любое.*

**Пераклад з рускай Соф'і ШАХ**



Тамара БУНТА

# МАМІНЫ ТУФЛІКІ

ЭСЭ

Калі мая мама ў трыццаць гадоў ішла замуж, у яе было дзевятнаццаць сукенак, чорныя лакавыя туфлікі і адна падушка з коўдрай. Яна адчувала сябе разумнай, багатай і шчаслівай. Да таго ж мама была настаўніцай, а раней настаўнік на вёсцы лічыўся другім чалавекам пасля старшыні калгаса.

Мама родам з Мсціслаўшчыны. Напрыканцы вайны немцы, адступаючы, спалілі ўсю яе вёску, і ў зямлянцы, якую выкапаў мой дзед, туліліся дзевяць чалавек. Таму, як толькі пасля акупацыі ў Мсціславе зноў адкрылі педвучылішча, мама зараз жа паехала туды і паступіла.

Паступіць — адно, а вучыцца як?.. У чым хадзіць на заняткі? Усё ж згарэла! Калі нейкую сукенку яшчэ мела, то на ногі, апроч лапцей, не было чаго насунуць. І тут раптам з Мсціслава прыехала нявестка — жонка старэйшага мамінага брата, які быў на вайне (на той час брат ужо загінуў, але пра гэта яшчэ ніхто не ведаў), — і прывезла ёй у падарунак нечаканае багацце: новыя чорныя гумовыя галёшы! У гэтых чорных галёшах, быццам у лакавых туфліках, мама потым і фарсіла на першым курсе, нават у холад. А іншыя навучэнкі, таксама пагарэльцы з вёсак, хадзілі на заняткі ў лапцях і зайздросцілі ёй.

Як толькі мама скончыла педвучылішча і пайшла на свой хлеб, усе грошы пачала траціць сабе на ўборы. Маладосць, што прыпала на цяжкія ваенныя і пасляваенныя гады, сыходзіла — хацелася хоць трохі пакрасавацца. І першае, што мама адхапіла сабе на кірмашы, — сапраўдныя чорныя лакавыя туфлікі на высокіх моцных абцасах! Трафейныя, мусіць. Пасля вайны прайшло два ці тры гады, і дадому ўжо вярнулася шмат пераможцаў, якія дайшлі да Германіі. Вярнуліся не толькі з медалямі і ордэнамі, але і з трафеямі. Шчаслiўкам, якія прычакалі сваіх мужоў-вызваліцеляў, падарункаў хапіла не толькі сабе, каб пафарсіць, але і засталося што прадаць — на будоўлю новай хаты, на куплю каровы… Таму ў той час нават на кірмашы маленькага беларускага гарадка можна было адхапіць шыкоўную сукенку або прыгожыя туфлікі.

Не, зразумела, мама дапамагала грашыма і свайму бацьку — хату новую ставіць, і малым пляменнікам заўсёды гасцінцы прывозіла… Але ўсё ж такі, як потым сама прызнавалася, лішні кусок хлеба не ела, каб толькі абноўку набыць. Звычайна гэта быў адрэз на сукенку. Тыя адрэзы, мусіць, таксама былі трафейныя — нямецкія ці нават японскія, бо сукенкі з іх атрымліваліся адметныя: лёгкія, напаўпразрыстыя, пышныя, кветкавых малюнкаў… З крэпдэшыну, з крэп-шыфону, з шоўку… Ніз сукенак — то ў складку, то плісэ, то з фальбонамі… І ўсе — у зборку па таліі… З паяскамі, са спражкамі, з бантамі… Па вялікай гарлавіне — палярыны, па маленькай — каўнерыкі… Плечыкі — на падкладцы… На рукавах часта — высокія манжэты, і на кожнай манжэце — з дзясятак маленькіх гузікаў, абцягнутых тканінай. А на ліфе гузікаў — дык ажно дваццаць пяць: ад каўнерыка да паяска са спражкай, які туга абхопліваў маміну тонкую дзявочую талію… І да ўсяго гэтага — уявіце сабе! — сапраўдныя лакавыя чорныя туфлікі на высокіх абцасах, а яшчэ — маленькая пузатая сумачка і фарсіста загнуты ўверх высокі капялюшык. Не настаўніца, а артыстка з экрана!..

Нездарма, калі на пачатку 1950-х гадоў у пошуках жаночага шчасця мама перабралася з Усходняй Беларусі, дзе вайна ўсіх кавалераў пабіла, у Заходнюю, на Гродзеншчыну, то аказалася самай моднай і прывабнай дзяўчынай на вёсцы. І хлопец файны адразу ж знайшоўся, ды не абы-які: ён умеў кіраваць машынай (у войску навучыўся), таму і працаваў у горадзе. Моцны аргумент на карысць абранніка. Астатнія кавалеры пераклiдвалі гной у калгасе ды толькі прымервaліся, як у горад збегчы. І неўзабаве мама пайшла замуж за майго бацьку. Вясковыя дзяўчаты толькі з зайздрасцю ўздыхалі: «Што ж, яна ж багатая: у яе — дзевятнаццаць сукенак!..»

Мая бабуля-заходніца нявестку багатай не лічыла. Ну і што, калі ў маладой — дзевятнаццаць сукенак, затое — усяго адна падушка і коўдра!.. За сваёй дачкой бабуля потым дала ў пасаг не толькі куфар з натканымі ручнікамі, посцілкамі і абрусамі, але яшчэ карову і гумно. Гумно перасыпалі — разабралі па бервяне, перавезлі на двор да маладога і зноў па бервяне сабралі. І стаяла яно пасля гэтага яшчэ больш за паўстагоддзя...

Усё астатняе жыццё мая любая бабуля прыгадвала маме тую адну падушку з коўдрай і дзевятнаццаць сукенак:

— Крэпдэшыны!.. Навошта яны ў замужжы?!.

І сапраўды, трое дзяцей за пяць гадоў так сапсавалі маміну фігуру, што дзевятнаццаць сукенак, — лёгкіх, пышных, напаўпразрыстых, з фальбонамі і палярынамі, з крэпдэшыну і шыфону, — віселі, забытыя, у шафе. Нават калі фігура і дазваляла б, апрануць іх маме ўсё роўна не было б калі: трое дзяцей — адно за адным, будаўніцтва сваёй хаты, гаспадарка — карова, свінні, куры, вялікі агарод, а яшчэ — штодзённыя праверкі вучнёўскіх сшыткаў і напісанне планаў!..

Так што віселі маміны дзявочыя сукенкі, віселі, віселі… і прычакаліся мяне! Я падрасла, пачала адчыняць шафу і перабіраць сукенкі. Не, не апранала — яны падаваліся мне занадта старамоднымі. У час майго дзяцінства сукенкі з крэпдэшыну і шоўку ўжо не цаніліся — на піку моды быў крымплен.

А вось туфлікі чорныя, лакавыя я прымервала. Яны блішчэлі, быццам новыя. Вабілі высокія абцасы. І я часта хадзіла па хаце, грукаючы гэтымі абцасамі, і адчувала сябе высокай і стройнай, разумнай і ўпэўненай. Я не была модніца, я была кніжніца: у класе вучылася лепей за ўсіх дзяўчатак. І першай мне хацелася быць паўсюль: і на ўроках, і пасля ўрокаў.

У маіх сябровак былі прыгожыя лялькі — нямецкія, з сапраўднымі валасамі, якія можна было расчэсваць, і з вочкамі, якія закрываліся. А ўжо адзення ім сяброўкі нашылі!.. У адной мама была краўчыха, а ў другой — прадаўшчыца!.. Яны маглі сваім дачкам нейкія адрэзкі з працы прынесці. А ў мяне лялька была пластмасавая, з пластмасавымі валасамі і вочкамі, адлітымі з пластмасы. Ды і сукенка прыгожая ў яе была толькі адна, у якой яна ў краме прадавалася. А пашыць новыя не было з чаго — з тых выцвілых ласкутоў ад маіх паркалёвых сукенак, з якіх я вырастала за лета, шыць не хацелася. А што магла прынесці з працы мама? Толькі чужыя сапсаваныя сшыткі… Вось і свярбелі рукі на маміны сукенкі. Ды яна іх не аддавала — берагла як успамін пра маладосць, пра свае надзеі на шчаслівае і багатае сямейнае жыццё, якія так і не спраўдзіліся.

І ўсё ж такі мне пашанцавала! Аднойчы ўвесну, перад Першамаем, мама, прыбіраючы ў хаце, дастала ўсе свае дзявочыя ўборы і вынесла ў кладоўку, павесіла ў старой, яшчэ фанернай шафе. Мусіць, нарэшце поўнасцю развіталася са сваёй маладосцю, перастроілася на іншае жыццё.

З кладоўкі выцыганіць сукенкі было лягчэй. Узброеная нажніцамі, я імгненна парушыла ўсю тую прыгажосць: адпарола палярыны, адстрыгла гузікі, выцягнула з паясоў спражкі, парэзала шырокія сукенкі на вузкія абрэзкі… І на гэтым кравецкае натхненне скончылася. Паклала ўсе загатоўкі да будучых лялечных убораў у шуфлядку старой шафы да наступнага разу і… больш ніколі яе не адчыніла. Я перарасла сваё жаданне — ужо нецікава было гуляць у лялькі. І больш мяне не хвалявала тое, што ў сяброваk лялькі прыгажэйшыя за маю. На той момант у мяне ўжо з’явіліся іншыя прырытэты.

Яшчэ праз некалькі гадоў мама, прыбіраючы ў кладоўцы, скруціла і запхнула ў стары мех тыя крэпдэшынавыя і шыфонавыя абрэзкі і без жалю выкінула разам з астатнім рыззём, ні словам мяне не папікнуўшы.

А вось чорныя лакавыя туфлікі засталіся. Шмат гадоў яны ляжалі ў мамінай хаце ў серванце, у ніжняй, закрытай яго частцы, разам з іншым абуткам. У верхняй жа, за шклом, красаваліся фарфоравыя рыбкі-чаркі разам з вялікай рыбінай-графінам, а таксама розныя фужэры, кубачкі, вазачкі, статуэтачкі — прыгожыя, але сціплыя вучнёўскія падарункі маме на святы.

Ішлі гады. Мянялася мода на форму абутку, абцасы, колер, скуру… Купляліся новыя туфлікі, зношваліся і выкідваліся, а гэтыя, маміны дзявочыя, заставаліся ляжаць у сваёй кардонцы, жылі. Яны перажылі і іншыя туфлікі, і мамін сервант, і маму.

Цяпер яны жывуць у маёй шафе, сярод майго абутку. І здаецца, што па-ранейшаму блішчаць, як новыя. Час ад часу я абуваю іх і, грукаючы абцасамі, хаджу па сваёй кватэры. Адчуваю сябе ў іх высокай і стройнай, разумнай і ўпэўненай, як і шмат гадоў таму. У іх і сёння можна было б пайсці «ў людзі», на якую-небудзь гулянку, ды вось бяда: няма пад што іх насіць. У мяне няма не тое каб дзевятнаццаць сукенак, — лёгкіх, пышных, напаўпразрыстых, з фальбонамі і з палярынамі, з крэпдэшыну і з шыфону, — нават адной!.. Толькі штаны з пінжакамі.

# ЗНАК

ЭСЭ

Мая мама памерла так, як, дай божа, памерці кожнаму: у 82 гады, у прыгожы сонечны вясновы дзянёк, пры добрым здароўі, раптоўна, за паўгадзіны і на руках у дачкі.

Настаўніца амаль з саракагадовым стажам, выхаваная савецкай сістэмай, мама па сутнасці была атэісткай, хаця апошнім часам, пасля смерці мужа, сына і старэйшай дачкі, у царкву хадзіла. Яна не баялася смерці, і калі гаварыла пра яе, дык гаварыла з... зацікаўленасцю.

— Вось загадка: ці ёсць жыццё на тым свеце, ці не?.. — аднойчы сказала яна мне. — Ведаеш што… Калі ўсё так, як пра той свет расказваюць, то я, як памру, пастараюся табе даць знак.

І што вы думаеце, яна мне гэты знак дала!

Я ездзіла да мамы, з Мінска ў Маладзечна, кожныя выхадныя. Заўсёды, калі б ні прыехала, на двары падмецена, ад снегу расчышчана, у хаце прыбрана, у печы нагатавана. Мама ўсё рабіла сама, вельмі не любіла кагосьці абцяжарваць сваімі праблемамі. Яна была вельмі сціплай.

Вось і ў тую нядзелю так: чыста, прыбрана, нагатавана. У нас абедзвюх — добры настрой: быў дзень нараджэння маёй сястры-нябожчыцы, для нас — свята. Мы з мамай паабедалі, выпілі па чарцы і доўга прасядзелі і пагаварылі за сталом. Мама раптам прыгадала і пачала расказваць, як у маладосці яна, навучэнка педвучылішча, штотыдня пешшу хадзіла са сваіх Дудчыц за васямнаццаць кіламетраў у Мсціслаў, на заняткі, а яе маці, мая бабуля Рыпіна, заўсёды праводзіла дачку. На паўдарозе яны развітваліся, і бабуля Рыпіна вярталася назад. Мама ж ішла далей і ўвесь час абарочвалася і глядзела, ці бачыць яе маці. Як толькі яны адыходзіліся далёка адна ад адной, мама здымала хустку, якую заўсёды яе прымушала завязваць бабуля Рыпіна.

Я не паверыла сваім вушам: мая правільная мама, якая ўсё жыццё крычала на мяне «надзень шапку» і «завяжы хустку», бо «трэба берагчыся», аказваецца, сама ў маладосці хадзіла без хусткі! Мне на той час было ўжо сорак сем гадоў, а я дагэтуль шчыра верыла, што мама сапраўды ўсё жыццё бераглася і хадзіла ў хустцы, не тое, што я — «з голай дурной галавой»... Вось гэта было для мяне адкрыццё! Мы добра тады пасмяяліся ўдзвюх.

Потым я пачала збірацца на электрычку, але мама папрасіла схадзіць у аптэку, купіць мазь для нагі — балела.

Ужо стаяла сапраўдная вясна. Снег сышоў, і неасфальтаваная дарога на нашай вуліцы падсыхала пасля ручаёў. Сонца добра прыпякала, і я расшпіліла паліто. Неяк адразу расхацелася ехаць у Мінск, і я падумала, а ці не зазірнуць мне на каву да аднакласніцы. Але мама надта не любіла і крыўдзілася, калі я, прыязджаючы, сыходзіла на дзве — тры гадзіны да сяброўак дзяцінства. Таму візіт да аднакласніцы адклала на наступны раз. Дзякуй табе, Божачка, што ты мяне ў той час уразуміў!..

Калі, вярнуўшыся з аптэкі, я ўвайшла ў хату, то яшчэ з парога ўбачыла, што мама ляжыць у зале на канапе. Напэўна, адчуўшы сябе кепска, спецыяльна адкінула кручок з веснічак і насцеж адчыніла дзверы з калідора ў хату. Я падскочыла да яе. Яна была шэрая тварам і задыхалася. Ніколі раней з ёю такога не здаралася, хаця апошнім часам яна жалілася на арытмію. Чамусьці я адразу зразумела...

Патэлефанавала ў хуткую. Доўга чакаць не прыйшлося — прыехалі праз 20 хвілін. Але гэта былі нашы з мамай апошнія хвіліны разам. Я трымала яе за руку... Прачыталa над ёй «Ойча наш»... І сказала: «Даруй мне, мамачка, усё даруй!..» Я старалася сказаць усё гэта, бо разумела, што яна паміраe. І яна разумела. Яна часта дыхала і час ад часу ўзнімала на мяне вочы. У іх не было ні пакут, ні страху, ні пытання. Яна проста глядзела на мяне, быццам хацела наглядзецца. У такія моманты я ёй гаварыла: «Я люблю цябе, мамачка, я люблю цябе!..» Ніколі раней я не гаварыла ёй такіх слоў: я была «татава» дачка.

Раптам яе погляд стаў па-дзіцячаму наіўны. І цяпер ён быў накіраваны не на мяне, а ўлева, убок і крыху вышэй.

— Мама, мая мама! — здзіўлена і радасна сказала яна.

Я зразумела, што за левым маім плячом стаіць бабуля Рыпіна, якую я ніколі не бачыла і якая прыйшла па сваю дачку, маю маму. Гэта былі апошнія маміны словы — яна страціла прытомнасць і больш не вярнулася ў гэты свет ніколі.

Маладзенькі доктар «хуткай дапамогі» паслухаў у мамы сэрца, змераў ціск і сказаў, што ні таго, ні другога амаль не чуваць.

— Зараз мы зробім ёй укол, але ён ужо не дапаможа, — проста і шчыра сказаў мне доктар.

Зрабілі ўкол. Потым доктар адкрыў чамаданчык і пачаў рабіць электракардыяграму. На маіх вачах крывая лінія на экране раптам ператварылася ў прамую і апарат запішчаў...

Праз тры гадзіны мама, прыбраная, ужо ляжала ў зале ў труне.

Пасля таго, як доктар выпісаў даведку аб смерці і паехаў, я патэлефанавала мужу, радні, суседкам... Прыйшлі жанчыны і прыбралі маму ў тое, што яна сама прыгатавала сабе «на смерць». Там жа я знайшла завяшчанне, дакументы на хату і грошы на пахаванне. Так, мама не любіла камусьці ствараць праблемы і пра ўсё паклапацілася сама.

Я часта думаю пра яе апошнія словы. Гэта ж яна дала мне знак! Усё так і ёсць, як расказваюць: калі чалавек сыходзіць з гэтага свету, па яго прыходзяць памерлыя блізкія, самыя дарагія яму людзі. Ну, а што далей адбываецца «там» — усе ведаюць. Ведаюць, толькі не вераць. І знакам сэнсу не надаюць…

# Сапраўднае застаецца

**У чарговы раз перачытваю манаграфію «Крылы рамантыкі», раздзелы ў калектыўных навуковых выданнях, артыкулы і рэцэнзіі Тамары Чабан. Акрамя чыста прафесійнага інтарэсу, да гэтага прычынілася «круглая» дата: 31 мая вядомая даследчыца літаратуры, прызнаны крытык магла б адзначыць сваё 65-годдзе. На вялікі жаль, ужо чвэрць стагоддзя побач з імем і прозвішчам Тамары Канстанцінаўны Чабан даводзіцца ўжываць дзеясловы прошлага часу і ўмоўнага ладу: пераможаная невылечнай хваробай, 20 сакавіка 1992 года яна адышла ў небыццё. Робячы захады па ўратаванні свету ад новых магчымых Чарнобыляў, пратэстуючы (словам і справай) супраць рэалізацыі розных бяздумных праектаў, накшталт затаплення поймы Заходняй Дзвіны, маладая энергічная жанчына і ў страшным сне, пэўна, не магла ўявіць, што неўзабаве ў «зону бяды» трапіць сама. І што асірацеюць яе маленькія дзеці, у несуцішным горы будуць дажываць век бацькі. Не рэалізуюцца, застануцца толькі ў планах яе шматлікія навукова-творчыя задумы.**



*Тамара Чабан.*

Крыху суцяшае (калі можна назваць гэта суцяшэннем), што Тамара Чабан здолела выкласціся і на кароткай часавай дыстанцыі (яе актыўная прысутнасць у літаратуразнаўстве і крытыцы доўжылася паўтара дзясятка гадоў), ярка, запамінальна, вынікова.

Годным унёскам у айчынную філалагічную навуку стала кандыдацкая дысертацыя Т. Чабан «Рамантычныя тэндэнцыі ў сучаснай беларускай паэзіі» (1982), абароне якой папярэднічаў выхад згаданай вышэй манаграфіі (выпадак па тым часе, бадай, беспрэцэдэнтны). Калі ж улічыць, што і кніга, і дысертацыя былі напісаны аспіранткай-завочніцай, то настойлівасці, працаздольнасці і відавочнай адоранасці Тамары Канстанцінаўны можна толькі здзіўляцца. У праблемным полі даследавання аказаліся складаныя аспекты літаратуразнаўчага дыскурсу: рамантычная канцэпцыя асобы, характар увасаблення мастацкага ідэалу, асаблівасці рамантычнай паэтыкі. Ва ўсіх гэтых пытаннях Т. Чабан выявіла зайздросную дасведчанасць, кампетэнтнасць, самастойнасць думак і меркаванняў, выкладзеных свежа, нетрафарэтна. Ужо тады, на пачатковым этапе навуковай дзейнасці, выразна абазначыўся галоўны прынцып літаратуразнаўцы: ажыццяўляць даследчую работу ў суаднесенасці аналізу і абагульненняў, не зніжацца да эмпірычнасці і не захапляцца адцягненым тэарэтызаваннем. І тады ж заўважыліся ўласцівыя Т. Чабан пачуццё такту і тонкі густ, непрадузятасць ацэнак і меркаванняў. Яны будуць засцерагаць ад схематызму і спрошчанасці, катэгарычнасці, гэтак як і перабольшанняў ці, наадварот, прыніжэння той ці іншай з’явы ў творчым працэсе.

Гэтыя якасці ў роўнай меры выяўляліся як у літаратуразнаўчых, так і ў крытычных працах Тамары Чабан. Будучы маладой па ўзросце, яна мела імідж высокапрафесійнага, аўтарытэтнага крытыка, з якім лічыліся, да каго прыслухоўваліся. Выступаючы ў розных крытычных жанрах (праблемны, дыскусійны артыкул, літаратурны агляд, творчы партрэт, інтэрв’ю, рэцэнзія і інш.), Т. Чабан з аднолькавым поспехам ацэньвала як агульналітаратурную сітуацыю, так і адметнасць канкрэтнай творчай індывідуальнасці. Асабліву зацікаўленасць выклікалі напісаныя ёю гадавыя агляды маладой беларускай паэзіі, творчыя партрэты, рэцэнзіі на кнігі паэтак-сучасніц Яўгеніі Янішчыц, Валянціны Коўтун, Ніны Мацяш, Раісы Баравіковай, Дануты Бічэль, Галіны Каржанеўскай і інш.

З асаблівым піетэтам ставілася крытык да творчай асобы Алеся Разанава — гэта вынікала як з яе публічных лекцый перад аматарамі слоўнага мастацтва, так і з апублікаваных матэрыялаў (аглядныя артыкулы, рэцэнзія «На мяжы невымоўнага» на кнігу «Вастрыё стралы», дыялог крытыка з паэтам «Паэзія — у спасціжэнні паэзіі…» і інш.). Як тонкі, праніклівы крытык Т. Чабан выразна ўсведамляла маштаб і адметнасць разанаўскага творчага дару, разумела, што ён — лідар пакалення, ва ўсякім разе, паэтычнага (пакалення, да якога належала і яна сама). Адсюль і піетэт перад паэтам, старэйшым за крытыка на няпоўных пяць гадоў. Сказанае, аднак, не азначае, быццам у гаворцы пра творчасць А. Разанава прысутнічаюць ноты паддобрывання, захвальвання. Зусім не. Паэт ацэньваецца па высокім рахунку мастацкасці, крытык жа, па ўсім відаць, ведае цану слову і сабе, не займаецца самапрыніжэннем. Гэта выдатна прадэманстравана ў памянёным дыялогу «Паэзія — у спасціжэнні паэзіі…» У адрозненне ад многіх іншых публікацый такой жанравай разнавіднасці, у якіх роля крытыка найчасцей зводзіцца да фармулявання лапідарных пытанняў, у дадзеным выпадку дыялог адбываецца «на роўных», абазнанасць, глыбіня разважанняў крытыка не саступае глыбіні роздуму паэта-інтэлектуала. Вось у якім гістарычным «зрэзе» і руху прадстаўлена крытыкам роля паэзіі: «…У часы язычніцтва паэзія была замовай, лекамі, вяшчунствам, малітвай… У антычнасці — своеасаблівай міфалогіяй, апяваннем багоў і герояў… У рымскай дзяржаве — адным з відаў палітычнай дзейнасці, публіцыстычнага аратарскага майстэрства. У часы Арыстоцеля і Лукрэцыя Кара паэтычнай мовай выкладалася філасофія, навука «аб прыродзе рэчаў» і паходжанні свету. Сярэдневяковыя рэлігійныя трактаты і духоўныя павучанні таксама часта гучалі на мове паэзіі» («Дзень паэзіі-89»).

*Квінтэсэнцыяй навуковых роздумаў, свайго роду лебядзінай песняй стаў для Тамары Чабан артыкул «Космас "Вянка"», што ў якасці літаратурнага каментарыя апублікаваны ў першым томе Поўнага збору твораў Максіма Багдановіча. У ім, як і ў «лебядзіных песнях» іншых аўтараў, ёсць нейкая своеасаблівая прасветленасць, так бы мовіць, надсветавасць.*

Гаворачы пра дзве іпастасі, у якіх Тамара Чабан выступала аднолькава паспяхова, варта падкрэсліць наступнае: яна ўмела «развесці» літаратуразнаўчы і крытычны падыходы, інструментарый, сродкі моўнастылёвага выражэння. Планавыя інстытуцкія тэмы былі вытрыманы ў акадэмічным стылі, утрымлівалі неабходную для навуковага даследавання атрыбутыку. Крытычныя ж матэрыялы ўяўлялі сабой уласна крытыку, былі «крытыкай без злучніка "і"» (М. Мушынскі). Шмат якія тэксты ў якасці ілюстрацыі напрошваюцца на цытаванне. Прыгадаем хіба публікацыю «Трэцяя рэальнасць» — адказы на пытанні лімаўскай анкеты пра самаўсведамленне крытыкі, яе здольнасць (ці няздольнасць) уздзейнічаць на літаратурны працэс. Нават у межах невялікай публікацыі аўтар здолела абазначыць тэарэтычныя аспекты праблемы і выйсці на жывую літаратурную рэальнасць: «…Рэдка была крытыка для пісьменніка "зрячим посохом", найчасцей — грознай дубінай… А потым ператварылася ў "палачку-выручалачку" ў кішэні масцітых і тытулаваных… А цяпер усё часцей становіцца "палачкай-выбівалачкай" у групавых камандных гульнях…» («ЛіМ», 1.IX.1989). Відавочна, што ў дадзеным выпадку мы маем справу не са спакойным акадэмічным стылем, а з баявітым словам крытыка, які, калі трэба, не цураецца іранічных і нават з’едлівых інтанацый.

Значнасць навуковага і крытычнага патэнцыялу Тамары Чабан добра ўсведамлялася як у літаратурных колах (доказ таму — агромністая колькасць рэдакцыйных заказаў), так і ў калектыве, дзе яна працавала. У якасці пацвярджэння спашлюся на вядомы факт. У 1980-х — пачатку 1990-х гадоў у Інстытуце літаратуры ішла інтэнсіўная работа над шасцітомным біябібліяграфічным слоўнікам «Беларускія пісьменнікі». Праз узначаленую Адамам Мальдзісам бібліяграфічную групу, што працавала каля дзясятка гадоў, прайшлі, за выключэннем двух-трох чалавек, усе маладыя супрацоўнікі. Тамара Канстанцінаўна якраз і была з таго выключэння. І загадчык аддзела, і кіраўніцтва інстытута ў цэлым слушна лічылі, што ў інтарэсах установы перспектыўны, падрыхтаваны тэарэтык павінен займацца тэорыяй, а не губляць час на няхай сабе патрэбную, але шмат у чым тэхнічную працу. І Тамара апантана займалася сваёй любімай тэорыяй (варта прыгадаць яе раздзел «Лірычнае самавыяўленне паэта і сацыяльная рэальнасць», апублікаваны ў калектыўнай манаграфіі «Ідэйна-тэарэтычныя пытанні сучаснага літаратурнага працэсу» (1987), а таксама кнігу «Сучасная паэзія і фальклор» (1988), выдадзеную ў суаўтарстве з Я. Гарадніцкім. А яшчэ былі два раздзелы ў чатырохтомных «Нарысах па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей», некалькі раздзелаў у праграме па літаратуры для сярэдняй школы, якая ствараласяў тыя гады.

Квінтэсэнцыяй навуковых роздумаў, свайго роду лебядзінай песняй стаў для Тамары Чабан артыкул «Космас "Вянка"», што ў якасці літаратурнага каментарыя апублікаваны ў першым томе Поўнага збору твораў Максіма Багдановіча. У ім, як і ў «лебядзіных песнях» іншых аўтараў, ёсць нейкая своеасаблівая прасветленасць, так бы мовіць, надсветавасць. Чалавеку нібы адкрываюцца новыя далягляды, новыя сэнсы, невядомыя астатнім. Пачынаючы з дня выхаду «Вянка», пра кнігу пісалі такія знакамітыя крытыкі і даследчыкі літаратуры, як А. Навіна, І. Замоцін, Я. Плашчынскі, У. Дзяржынскі, А. Лойка, М. Стральцоў, Р. Бярозкін, У. Конан і інш. Пераасэнсаваўшы зробленае выдатнымі папярэднікамі, Т. Чабан у многім пайшла адметнымі шляхамі. Варта адзначыць, што прапанаваная ёй кампазіцыя прынята за аснову пры падрыхтоўцы кнігі да выдання ў Поўным зборы твораў М. Багдановіча. Значэнне таго, што зроблена Т. Чабан у галіне багдановічазнаўства, на мой погляд, не да канца ўсвядомлена.

Навукова-крытычная спадчына Тамары Чабан пацвярджае ісціну пра наяўнасць выключэнняў з правіл. Дае «збоі», у прыватнасці, усталяванае меркаванне наконт хуткага старэння літаратуразнаўчых і крытычных прац. У работах Т. Чабан няшмат таго, што называюць данінай часу, што гучыць не актуальна. Адкінуўшы некаторую рыторыку савецкіх часоў (якой у Т. Чабан не так і многа), маем работы, сэнс і значэнне якіх актуалізуецца ў грамадска-культурнай прасторы пачатку XXI стагоддзя.

За межамі размовы засталіся такія важныя сферы дзейнасці Т. Чабан, як навуковае рэдагаванне, укладальніцкая праца, старшынства і членства ў розных грамадскіх саветах, рэдакцыйных калегіях, у школе «Юны літаратар». І, несумненна, агромністая работа па абароне прыроды і беларускай мовы. Усімі гэтымі справамі Тамара Чабан займалася з поўнай самааддачай, выдаткоўваючы багата маральных і фізічных сіл і часу, якога заставалася ўсё менш.

Акідваючы мысленным позіркам тое, што зрабіла, які след і памяць пра сябе пакінула Тамара Чабан, згадваю лацінскае выслоўе *littera scripta manent* (напісанае застаецца). Безумоўна, застаецца. Асабліва тады, калі яно сапраўднае.

**Алена ГУРСКАЯ**

# «НАШЧАДАК ЗЯМЛІ»:
## гісторыя аднаго твора з ліста паэта

1949 год. Прайшло ўсяго чатыры гады пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны, і ў беларускую літаратуру прыйшла цэлая плеяда таленавітых паэтаў, празаікаў і драматургаў: Іван Мележ, Іван Шамякін, Андрэй Макаёнак, Васіль Быкаў, Пімен Панчанка, Янка Брыль, Анатоль Вялюгін і многія іншыя. Усе яны актыўна друкуюцца на старонках беларускіх перыядычных выданняў. Не быў выключэннем і Анатоль Вялюгін. Асобныя яго вершы друкаваліся яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны, калі паэт быў юнаком. А пачынаючы з 1945 года яго творы з'яўляюцца даволі часта на старонках газет і часопісаў. І вось у лістападаўскім нумары часопіса «Беларусь» за 1949 год з'явілася паэма Анатоля Вялюгіна «Нашчадак зямлі». Твор, відаць, быў прыняты не зусім прыхільна. Пра гэта сведчыць наступны ліст Анатоля Вялюгіна, які выяўлены ў архіве народнага пісьменніка БССР Івана Шамякіна. Ліст трапіў у архіў Івана Шамякіна (зараз захоўваецца ў БДАМЛМ), бо на той час Іван Пятровіч узначальваў партыйную арганізацыю ў Саюзе пісьменнікаў БССР. Ліст вельмі цікавы з пункту гледжання таго, што легла ў аснову паэмы і як паставіліся да гэтага твора некаторыя пісьменнікі:

*«Партыйнаму бюро п/арганізацыі ССП Беларусі*

*Аб легендзе «Нашчадак зямлі»*

*У лістападаўскім нумары часопіса «Беларусь» за 1949 год я надрукаваў паэму-легенду «Нашчадак зямлі».*

*Гісторыя гэтай рэчы. У Беларусі і Прыбалтыцы існуе вельмі цікавая, глыбокая па сваёй думцы народная легенда, якая сцвярджае, што сапраўдным нашчадкам зямлі з'яўляецца працоўны народ, а свет прыгнятальнікаў асуджаны сваім жыццём на немінучую пагібель.*

*Працуючы над творам, я карыстаўся той інтэрпрэтацыяй легенды, у якой яна пададзена ў газеце «Правда» (нумар ад 21 жніўня 1947 года) у артыкуле «Воскресший богатырь».*

*Вось як пісала «Правда» аб гэтай народнай легендзе:*

*«На Янтарной земле, как любовно зовут латыши свой край, жил в старые времена богатый и свирепый барон. На всем побережье был он известен своими разбойничьими делами, много душ загубил, много крови пролил, и пришло ему время умирать. И взмолился барон дьяволу: «Я был верным твоим слугой, отсрочь смерть, пусть подождёт, пока не выращу я наследника, которому оставлю свою дружину». И сказал дьявол барону: «Ладно. Служил ты мне верно, отсрочу я тебе смерть, расти наследника дел своих».*

*А барон был бездетным. Где взять наследника? Едет он однажды по взморью и видит, что тянут рыбаки сеть: богатырь к богатырю, молодец к молодцу, все на одно лицо, могучие, красивые, сразу видно — братья. Налетел барон на них, схватил младшего, перекинул поперек седла и увез к себе в замок. «Будешь моим наследником», — сказал он.*

*И случилось тут чудо: мальчик заснул. Год проходит — спит, два проходят — спит, десять лет — спит, двадцать лет — спит.*

*Рассердился барон: «Что это за наследник? Выбросить этого соню на съедение псам!». Выбросили мальчика из замка. Тут его мать и нашла, заплакала она, приласкала. И случилось второе чудо: мальчик проснулся. Говорит ему мать: «Что ж ты, такой маленький, делать станешь? Братья твои все за это время до небес выросли, по заливу вброд ходят». И случилось тут третье чудо. От материнской ли ласки, от воздуха ли родного стал мальчик расти не по дням, а по минутам. Не успела мать и слезы вытереть, как стал он богатырем, как братья, плечами ушел в облака, и пошел он вброд через залив помогать братьям тащить сеть с богатой добычей.*

*Эта своеобразная поэтическая сказка звучит сейчас особенно хорошо, потому что судьба проснувшегося богатыря очень напоминает судьбу самой Латвии. В ней поэтически отразились интереснейшие процессы, которые происходят сейчас по всей латышской земле…» («Правда» ад 21 жніўня 1949 г.).*

*Калі легенда была надрукавана, на партыйным сходзе ССПБ тав. Вітка ў дакладзе аб літаратуры на заходнебеларускую тэматыку зрабіў мне закід, што я напісаў твор на так званую «нейтральную» тэму і твор не мае адзнакі часу. Я тады сцвярджаў і цяпер сцвярджаю, што «Нашчадак зямлі» — гэта не экскурс у гісторыю і не «нейтральны твор». Аб мінуўшчыне ў мяне няма ніводнага верша, усе мае рэчы напісаныя на самыя актуальныя тэмы. Я не хачу, вядома, рабіць ніякіх параўнанняў, але, разважаючы так, як гэта тады рабіў дакладчык, можна прыйсці да вываду, што і горкаўская «Девушка и смерть» таксама «нейтральны» твор.*

*Далей Вітка абвінавачваў мяне, што я ў вобразе хлопчыка-нашчадка зямлі паказаў, як быццам, усіх працоўных Заходняй Беларусі. Я браў у творы выпадак, дзе, вядома, робіцца абагульненне наогул аб працоўным чалавеку. Тым больш што «Правда» пісала: «Эта своеобразная поэтическая сказка звучит сейчас особенно хорошо, потому что судьба проснувшегося богатыря напоминает судьбу самой Латвии».*

*Робячы трэці закід у адрас «Нашчадка зямлі», Вітка выхапіў страфы з кантэкста паэмы і сказаў, што я сцвярджаю ў творы, быццам бы князь хацеў свае багацці аддаць народу. У паэме ж гаварылася аб прыватным выпадку і зноў гэтак жа, як падае легенду «Правда»: «Налетел барон на них, схватил младшего, перекинул поперек седла и увез к себе в замок. «Будешь моим наследником», — сказал он…»*

*З той пары, калі быў надрукаваны «Нашчадак зямлі», мінула амаль два гады. Я карэнным чынам перапрацаваў твор у тых месцах, дзе некаторыя вобразы па-рознаму ўспрымаліся.*

*Прадстаўляю новы варыянт «Нашчадка зямлі». У сувязі з тым, што аб ім чамусьці зноў узнімаецца гаворка, прашу зрабіць вывады аб ідэйных якасцях гэтага твора.*

*Анатоль Вялюгін*
*6.7.51 год».*

У сувязі з чым амаль праз два гады пасля першай публікацыі твора зноў узнікла пра яго гаворка, невядома, бо на працягу не толькі 1950-х гадоў, але і пазней паэма больш не з'яўлялася на старонках перыядычнага друку. Цяжка сказаць, які з варыянтаў твора ўключаў Анатоль Вялюгін у свае паэтычныя зборнікі. Мяркуем, што захаваліся абодва варыянты паэмы, і даследчыкам гісторыі сучаснай беларускай літаратуры будзе цікава параўнаць два варыянты аднаго і таго ж твора.

І яшчэ адно: у нашу задачу не ўваходзіць разбіраць ліст, змест яго гаворыць сам за сябе. Адзначым толькі наступнае: змест ліста яскрава сведчыць пра тое, якую інтэрпрэтацыю маглі даваць народным легендам у канцы 1940-х — пачатку 1950-х гадоў і як рэагавалі на публікацыі твораў сваіх калег самі пісьменнікі. У лісце, у прыватнасці, ідзе гаворка пра адмоўную ацэнку твора Васілём Віткам. Але вядома, што Васіль Вітка часта падтрымліваў таленавітых пісьменнікаў-пачаткоўцаў. А можа, тут мае месца чыста суб'ектыўная ацэнка твора?

**Алеся ШАМЯКІНА**

*Лёсы старадрукаў*

# Загадкавы ўладальнік Трыёдзі

Калі працуеш са старажытнымі кнігамі, міжволі задумваешся пра людзей, якія раней трымалі іх у руках, гарталі старонкі, чыталі і, напэўна, прапускалі праз сэрца радкі, надрукаваныя на пацямнелай ад часу паперы. Часам на кнігах сустракаюцца запісы, якія нагадваюць пра мінулых уладальнікаў і могуць нават штосьці пра іх распавесці. Бывае, атрымліваецца амаль дакладна высветліць шлях, які прайшла кніга, перш чым да яе змаглі дакрануцца нашыя сучаснікі. Іншы ж раз магчыма толькі выказваць меркаванні і здагадкі.

Адна з кніг, што захавала на сабе прыкметы мінулага, — асобнік богаслужбовай кнігі Трыёдзь кветная, выдадзенай у Маскве ў 1621 г., які захоўваецца ў фондах аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Беларусі.



Лёс кнігі, як і лёс чалавека, часам парадаксальны. Калі гартаеш асобнік Трыёдзі кветнай з фонду ЦНБ НАН Беларусі, нельга не звярнуць увагу на аркушы, падклееныя кавалачкамі газет мінулага стагоддзя. Гэта падаецца дзіўным і нават вераломным у дачыненні да выдання, якое можна смела назваць помнікам славянскага кнігадруку. Калі ж прыглядзецца да радкоў, якія надрукаваныя на гэтых кавалках, такі ўчынак здзіўляе яшчэ больш. Відавочна, што газета была грамадска-палітычнага кірунку, сустракаюцца назвы артыкулаў накшталт: «За что мы будем бороться в но[вой] сталинской пятилетке», фрагменты, якімі падклеены аркушы 20 і 58, дазваляюць вызначыць адрас рэдакцыі перыядычнага выдання і час яго выпуску: «г. Вольск, Саратовской обл., ул. Степана Разина», «Орган Вольского ГК ВКП (б) и городского Совета депутато[в] | №68 (7458) Суббота, 6 апреля 1946 года». Пасля гэтага становіцца зразумелым, што рэстаўрацыя газетнай паперай хутчэй за ўсё не вынік неахайнага стаўлення да кнігі, а вымушаная мера, якую можна патлумачыць цяжкасцямі пасляваеннага жыцця. Аркушы падклеілі тым матэрыялам, які быў у наяўнасці, тым самым у нейкай ступені паяднаўшы два розныя светапогляды: рэлігійны і камуністычны, з уласцівым яму атэізмам.

Акрамя філасофскіх разважанняў пра зменлівасць лёсу, газетныя падклейкі даюць падставу меркаваць, што пэўны час Трыёдзь кветная знаходзілася ў горадзе Вольску. Пра тое, што, верагодна, гэта быў дастаткова працяглы час — з канца XVIII да сярэдзіны XX ст., — сведчыць запіс, выяўлены амаль выпадкова. Размешчаныя ў верхнім левым кутку аркушаў з 1-га па 61-ы, па адной на кожным аркушы, невялічкія літары, запісаныя скорапісам XVIII ст., утвараюць наступныя радкі: «вольскаго Крестовоздвиженского храма Льва Ивановича Расторгуева».

Пошук інфармацыі пра асобу, узгаданую ў запісе, прыводзіць да буйнога купца, уладальніка Кыштымскіх заводаў, шахт, капалень, лясных і зямельных надзелаў на Паўднёвым Урале Льва Іванавіча Растаргуева (1769 — 1823), які пачаў кар'еру ў якасці дробнага служкі ў краме вольскага купца Васіля Аляксеевіча Злобіна, таму цалкам магчыма, што Трыёдзь кветная з фонду ЦНБ раней належала гэтаму чалавеку і была, напрыклад, пакінутая ў якасці ўкладу ў храм (з'ява перадачы, укладу кнігі ў царкву на памінанне душы альбо дзеля адпушчэння грахоў была дастаткова пашырана, такія запісы вельмі каштоўныя, бо звычайна ўтрымліваюць дату, імя і прозвішча ўкладчыка, а часам і яго сацыяльны статус). Вядома таксама, што Леў Растаргуеў належаў да старавераў-беспапоўцаў і нават узначальваў староверскую абшчыну.

Уяўленне малюе вобраз руплівага гаспадара і шчырага верніка. Але калі паглыбіцца ў гісторыю, высвятляецца, што з асобай гэтага чалавека звязана шмат таямніц і нават легенд, часам дастаткова змрочных. Вядома, што дасягнуць камерцыйнага поспеху і зарабіць вялікія грошы яму дазволіла вытворчасць алкагольных напояў, што само па сабе не надта богаўгодны факт, акрамя таго, як сведчаць некаторыя крыніцы, Леў Растаргуеў вылучаўся дастаткова жорсткім стаўленнем да сваіх прыгонных.

Незвычайныя факты і паданні спляліся і вакол сядзібы ў Екацярынбургу, будаўніцтва якой Леў Іванавіч распачаў у 1814 г. Паводле адной з легенд, для будаўніцтва былі выкліканы таленавіты архітэктар, які знаходзіўся ў гэты час за кратамі. За добра выкананую працу Растаргуеў нібыта абяцаў яму паспрыяць з датэрміновым вызваленнем або арганізаваць уцёкі, але дамова з боку купца не была выканана, і майстар зноў трапіў у турму. Вязень не здолеў перажыць страту надзеі і скончыў жыццё самагубствам, пракляўшы перад гэтым увесь род Растаргуевых. Ніякіх папер з тых часоў не захавалася, таму даведацца, як было на самай справе, немагчыма, але лёс нашчадкаў Льва Растаргуева цяжка назваць шчаслівым.

Вяртаючыся да нашага выдання, трэба зазначыць, што поўнай упэўненасці ў тым, што чалавек, які пакінуў запіс на старонках Трыёдзі, быў тым самым купцом Растаргуевым, няма. Спробы адшукаць інфармацыю пра храм, узгаданы ў запісе, пакуль таксама поспеху не мелі. Магчыма, з цягам часу з'явяцца дадатковыя звесткі, якія дапамогуць аднавіць гісторыю бытавання нашай Трыёдзі кветнай, але сёння гэта адна са шматлікіх таямніц і загадак, якія ўтрымліваюць старадаўнія кнігі.

**Вольга ГУБАНАВА**

# Раман ЗАСЛОНАЎ:
# «ДЛЯ МЯНЕ ВАЖНЫ БЕЛАРУСКІ ГЛЯДАЧ»

**Каля месяца таму ў межах Венецыянскай біенале пачаў дзейнічаць беларускі нацыянальны выставачны павільён. За гэты час, адзначаюць куратары, інтэрактыўны відэапраект «Стол» Рамана Заслонава змог уразіць публіку міжнароднай выстаўкі. Беларусь у чацвёрты раз дэманструе праекты айчынных мастакоў у Венецыі, але гэтым разам аўтары прадумалі кожную дэталь і абстрагаваліся ад звыклай мадэлі прадстаўлення краіны, выкарыстаўшы відэаарт замест жывапісу, скульптуры альбо арт-інсталяцыі. Мы ўжо распавядалі, што ўяўляе сабой праект «Стол», які выклікаў шмат спрэчак яшчэ падчас зацвярджэння на конкурснай аснове: гучала меркаванне, што немагчыма мастаку, які жыве пераважна ў Францыі, прадстаўляць Беларусь у Венецыі. Хтосьці не зразумеў ідэі. Але ж былі і прыхільнікі меркавання, што прозвішча Заслонаў — своеасаблівы брэнд не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі.**

Аўтар праекта Раман Заслонаў і рэжысёр-пастаноўшчык відэаарту Сяргей Талыбаў вярнуліся з Венецыі ў Мінск і распавялі, з чаго ўсё пачыналася.

### 30 ХВІЛІН

— Ідэя праекта, прадстаўленага на Венецыянскай біенале, нарадзілася яшчэ некалькі гадоў таму, — тлумачыць Раман Заслонаў. — Апірышчам было менавіта відэа. Мы падрыхтавалі невялікі фільм працягам у 30 хвілін, у якім занятыя дваццаць шэсць артыстаў. Я заўсёды займаўся станковым жывапісам, стылістыка, у якой працую, даволі традыцыйная. Таму многім было дзіўна даведацца, што я працую ў іншым жанры, а тым больш у жанры відэаарту. Але часам выпадковыя гукі, нечаканыя падзеі падштурхоўваюць творцаў да нейкага праекта. У дадзеным выпадку відэа засведчыла аднойчы пачуты на студэнцкай практыцы прагноз надвор'я і застольныя размовы са старымі сябрамі. Я зразумеў, што гэтыя гісторыі могуць існаваць сумесна. Паколькі ў кіно я заўсёды прысутнічаў як глядач і ставіўся да яго як спажывец, то напачатку не ведаў, як рэалізаваць задуму тэхнічна. Знаёмства з Віктарам Лабковічам і Сяргеем Талыбавым навяло на думку, што менавіта яны могуць дапамагчы. Я распавёў ім пра праект, і яны загарэліся, зацікавіліся настолькі, што працэс пайшоў хутка. Тады я нават спалохаўся: сустракаешся з людзьмі, прамаўляеш слова «стол», якое стала асабістым, блізкім табе, і раптам яно становіцца такім жа дарагім для тых, хто прыняў тваю думку. Ідэя мая, але без людзей, якія валодаюць тэхнічнымі навыкамі, праект наўрад ці атрымаўся б маштабны. Магчыма, мне б удалося зняць гэты фільм «з калена» фотаапаратам, і гэта быў бы зусім іншы твор. Праект быў цалкам гатовы ў пачатку 2016 года. Была вельмі доўгая і складаная праца па апрацоўцы відэаматэрыялу, фільм манціраваўся, мы шукалі найлепшае кампазіцыйнае рашэнне, працавалі з графікай. І ў гэты час я даведаўся, што абвешчаны конкурс, вырашыў паспрабаваць.

Аднак рэалізацыя праекта ў Венецыі выклікала складанасці. Спачатку куратары шукалі павільён, які б дакладна адлюстраваў ідэю праекта, але не заўсёды падабалася месцазнаходжанне. У выніку ад першапачатковай задумы вырашылі адмовіцца, бо павільён, у якім размешчаны беларускі праект, знаходзіцца недалёка (пяць хвілін хады да Садоў Джардзіні і Арсенала) гэта практычна цэнтральная частка Венецыі, дзе штодня бываюць турысты з розных краін свету.

### ПА ПЯСОЧНЫМ ГАДЗІННІКУ

— Згодна з першаснай задумай, зала, якая павінна была папярэднічаць памяшканню для прагляду, была калідорам, які настройвае гледача на відэа, аднак не раскрывае яго задуму, — адзначыў Раман Заслонаў. — У калідоры павінны былі стаяць маштабныя сталы, якія абапіраліся на сцены, а чалавек, які мінаў іх, рыхтаваўся б да інсталяцыі і толькі потым трапляў у нашу венецыянскую «глядзельную» залу. Патрапіўшы ў крыху іншыя ўмовы ад чаканых, мы зразумелі, што ў нашым павільёне гэта зрабіць будзе немагчыма, таму перагледзелі канцэпцыю: атрымалася, што глядач адразу ж трапляе ў асноўную траекторыю залы. І паколькі другая зала яшчэ меншая па маштабе, чым асноўная, там была зроблена цалкам новая інсталяцыя, якая ўспрымаецца з глядзельнай залы ў праёме дзвярэй. У памяшканні вельмі мала святла, таму любыя яркія колеры прыцягваюць увагу. З другога памяшкання відаць вялікі пясочны гадзіннік, у якім замест пясчынак я выкарыстаў маленькія столікі. Гэты арт-аб'ект закліканы захапіць час, паказаць, як можа замяраць жыццё за нашым беларускім сталом. Выкарыстаўшы столікі замест пяску, мы працягнулі асноўную тэму праекта, паказалі, як стол звязвае не толькі чалавека з чалавекам ці нейкімі думкамі, а звязвае нас з уласным жыццём. Стол можа быць нават імправізаваным, але ўсё роўна аб'ядноўвае.

У такіх праектах заўсёды цікавае меркаванне гасцей. Станоўча выказваліся не толькі наведвальнікі, але і міжнароднае журы, якое адзначыла арыгінальнасць ідэі і рэалізацыі. Сёлета ўпершыню падчас удзелу Беларусі ў Венецыянскай біенале акрамя ўласна працы павільёна ў Садах Джардзіні (цягам сямі месяцаў) адбудуцца сустрэчы мастака Рамана Заслонава з галерыстамі, мастацтвазнаўцамі, аматарамі мастацтва, дзе куратар будзе падрабязна расказваць пра праект «Стол». Сустрэча была прапанавана самой дырэкцыяй біенале. Гэта тая магчымасць, пра якую марылі папярэднія ўдзельнікі выстаўкі з беларускага боку: не толькі паказаць, але і сказаць, пагутарыць, данесці думку да публікі.




*Наталля Шаранговіч, Раман Заслонаў, Сяргей Талыбаў падчас прэс-канферэнцыі.*

**У кожнага мастака ёсць мара выстаўляцца на знакамітых пляцоўках свету. У Рамана Заслонава атрымалася, і зараз ён працуе над трыма новымі праектамі ў жанры відэаарту. Венецыя стала для мастака шчаслівым білетам: літаральна ў маі італьянскі часопіс «Kyoss», адзін з найстарэйшых у свеце мастацтва, прысвяціў Раману Заслонаву цыкл артыкулаў, а знакаміты дызайнер Клета Мунары прапанаваў стварыць сумесны дызайнерскі праект.**

### КАЛЯ 30 ЭПІЗОДАЎ

— У асноўным памяшканні нашага павільёна могуць знаходзіцца адначасова да дваццаці пяці чалавек, — падкрэсліў Раман Заслонаў. — Былі моманты, калі ў павільён усе не змяшчаліся. Нацыянальны дух беларусаў госці адчулі, шмат пра гэта разважалі. Але нашай мэтай было не акцэнтаваць увагу на нацыянальнасці, а з'яднаць розных гледачоў у рамках адной прасторы. І атрымалася. Гэта значыць, кім бы вы ні былі — беларусам ці амерыканцам, вы ўсё роўна паглыбляецеся ў агульнае дзеянне, якое працята ноткамі беларускай душы. Так, былі моманты, калі людзі заглядалі ў залу на тры секунды і ўцякалі далей. Да такога трэба быць гатовым, калі не ствараеш маштабных арт-аб'ектаў, інсталяцый. Але былі людзі, якія, не адрываючыся, глядзелі фільм трыццаць хвілін, а былі і тыя, хто заставаўся глядзець фільм другі і нават трэці раз: хацелі счытаць інфармацыю, зразумець сэнс таго, што бачаць.

Любая камандная справа прадугледжвае ўменне слухаць адзін аднаго, быць адным цэлым у момант творчасці. Раману Заслонаву пашанцавала. Яго калегі «па цэху» Віктар Лабковіч і Сяргей Талыбаў захапіліся аўтарскай ідэяй і падтрымалі. Не бянтэжыліся, што ў жанры відэаарту Раман пачатковец, бо ведалі: майстар — чалавек ідэі, фантазіі. Цікавасць нельга назваць карыслівай, бо думак пра Венецыянскую біенале напачатку не было.

— Мяне вельмі зацікавіў фармат работы, які прапанаваў Раман, — расказаў рэжысёр-пастаноўшчык Сяргей Талыбаў. — Я цікавіўся творчасцю мастака раней і ведаў, што відэаарт для яго — новы занятак. Мы не рабілі стандартнае кіно са скончаным сюжэтам і акцёрскімі завучанымі тэкстамі. Была важная свабода рэалізацыі. Зараз складана распавесці, пра што гэта кіно. Але кожны глядач для сябе знойдзе знаёмыя эпізоды, паўтоны, пазнавальныя адценні і матывы. Хтосьці ўсміхнецца, хтосьці не зразумее: у гэтым і ёсць асаблівасць праекта «Стол». У кіно ўсё па-іншаму: трэба разжаваць кожнае слова, кожны фрагмент складаць у сюжэт, нават хаваць ідэі, каб яны ўсплывалі ў падсвядомасці. А тут сітуацыя іншая: прысутнічае поле для свабоды. Тэхнічна рэалізоўваць праект было вельмі цікава, таму што ў фільме каля трыццаці эпізодаў за бясконцым доўгім сталом. У кіно такі фармат новы, і, магчыма, за яго больш ніхто не возьмецца: тут занадта шмат інтэлектуальнага і мала руху. Але Раман — творца харызматычны і мэтанакіраваны: з намі ці без нас праект быў бы рэалізаваны.

### НА ГАДЫ

Беларускія артысты з задавальненнем адгукнуліся на ідэю зняцца ў праекце. У іх не было канкрэтных задач, ім не пісалі сцэнарый. На здымках рэжысёр ствараў акцёрам абставіны, у якія яны павінны былі паглыбіцца, каб спраектаваць прапанаваную сітуацыю на сябе. Тэкст нараджаўся ад успрымання. Куратары палічылі, што такі фармат працы дасць паспяховы вынік. Здымачны працэс заняў два дні.

Але ў Беларусі фільм не плануюць паказваць да пачатку наступнага года. Такое рашэнне было прынятае ў сувязі з тым, што прадставіць праект «Стол» на радзіме будзе значна складаней: пад яго неабходна адаптаваць памяшканне. Але цікавасць ёсць, тым больш што фота беларускага павільёна складана знайсці нават на інтэрнэт-пляцоўках.

— Пакуль праект у Венецыі, мы вырашылі не паказваць фільм у Беларусі, — падкрэсліў Раман Заслонаў. — Айчынным гледачам будзе прыемна ўбачыць яго на асобным паказе. Але тое, што на пачатку будучага года мы прадэманструем у Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў, не будзе дакладнай копіяй павільёна ў Венецыі. Часта творамі мастацтва з'яўляюцца гатовыя рэчы. Калі яны не паказаны ў годным абрамленні, могуць згубіць сэнс, ідэю, канцэпцыю. Гледачы, якія бачылі відэаарт у венецыянскіх рэаліях, ведаюць, наколькі там гэта выглядае гарманічна. Калі праект проста транспартаваць у Беларусь, будзе нецікава. Таму, нягледзячы на тое, што праект выстаўлены на сусветнай выставачнай пляцоўцы, мы працягваем працу над ім. Для мяне беларускі глядач вельмі важны. І мне не ўсё роўна, як ён успрыме наш фільм. Не хачу рабіць справаздачу або адпіску, таму гэта будзе ўжо асобны праект, асноўным элементам якога па-ранейшаму застанецца відэа, але кантэкст памяшкання, у якім будзем прадстаўляць фільм беларусам, кардынальна зменіцца.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Сустракаюцца дзве галактыкі…

**Напрыканцы тэатральнага сезона на беларускую сцэну вярнуўся спектакль «Што рабіць з тыграм?!» пасля паўтарагадовага перапынку. Імя яго рэжысёра-пастаноўшчыка Дарыуша Язерскага з Польшчы набыло вядомасць у Беларусі пасля гучнай прэм'еры на пачатку бягучага сезона — спектакля «Камера, якую дала мне маці». Таму наша размова — пра эксперыментальны тэатр.**



Фота Віктара Ведзеня.

Сцэна са спектакля «Што рабіць з тыграм?!».

**— Чым вас прыцягнула Беларусь, што ўзнікла жаданне папрацаваць на тэатр краіны?**

— Беларусь я адкрыў для сябе падчас удзелу польскага тэатра ў Міжнародным фестывалі «Тэатральны куфар» яшчэ восем гадоў таму. Праз некаторы час прапанавалі ладзіць на фестывалі майстар-класы, а потым запрасілі і ў журы. Акрамя гэтага, я прывозіў у Мінск дзве пастаноўкі ў грузінскіх тэатрах: «У маім садзе вайна» (па матывах «Злодзея» Веслава Мысліўскага, Тбіліскі драматычны тэатр імя Сандра Ахметэлі) і «Паліцыя» (паводле Славаміра Мрожака, Поційскі дзяржаўны тэатр імя Валяр'яна Гунія).

Ваша краіна прыцягнула перш за ўсё іншым менталітэтам акцёраў, іх гатоўнасцю ступіць на нязведаны шлях. Яшчэ мне падабаецца сітуацыя ў краіне, якая патрабуе ад рэжысёра больш алегорый і метафар, дазваляе глыбей пагрузіцца ў творчы працэс.

**— Ідэя спектакля «Камера, якую дала мне маці» ўзнікла даўно. Але пачалі ў Беларусі вы ўсё ж з польскага драматурга Славаміра Мрожака.**

— Сем гадоў таму я прачытаў прозу Сюзаны Кейсэн і пасля гэтага загарэўся жаданнем рэалізаваць яе на сцэне. Але за гэтыя гады я паспеў двойчы ўзяць удзел у «Тэатральным куфры». Пасля ў 2014 годзе прывозіў дзве свае грузінскія пастаноўкі. Гледачам яны спадабаліся. Нагадаю, у адным з іх была драматургія Мрожака. Даведаўся, што мінскія прадзюсары хацелі паставіць яго п'есу, а ў мяне і беларускага рэжысёра-лялечніка Алены Плятавай была ідэя паказаць на сцэне «Летні дзень». На жаль, у нас з Аленай праца не атрымалася. У выніку я абраў дзве п'есы Мрожака: «Пакутніцтвы Пятра Ахея» і «Летні дзень». Яны і сталі асновай спектакля «Што рабіць з тыграм?!». Мрожак гучыць у беларускім тэатры, наогул лічу, што чытанне гэтага аўтара па-новаму — і ёсць мой шлях.

**— Спектакль «Што рабіць з тыграм?!» не ішоў на беларускай сцэне больш за год. Ці не шкодзяць пастаноўцы працяглыя перапынкі?**

— Спектакль жыве сваім жыццём, якое залежыць ад шмат якіх рэчаў (не толькі ад жадання пастановачнай трупы). Акрамя таго, незалежныя тэатры маюць праблемы з фінансаваннем, таму што часта звяртаюцца да цяжкіх, складаных і збольшага скандальных тэм, для якіх няпроста знайсці спонсараў. На жаль, я не быў на апошнім спектаклі. Але калі «Тыгр» працягне жыць, збіраюся прыехаць у Мінск, каб дадаць тэмпу і напалу драматургіі.

**— Што, на вашу думку, аб'ядноўвае п'есы Мрожака «Летні дзень» і «Пакутніцтвы Пятра Ахея»? Чаму менавіта іх злучылі ў адзін спектакль?**

— Гэта два аблічы абсурду. Два тыгры, якія чакаюць першай жа нашай памылкі. Зусім розныя, але ў той жа час абодва вельмі жахлівыя. Зразумеўшы гэта, як я мог не аб'яднаць менавіта іх у адзіное цэлае? І тут жа яшчэ адзін выклік: два акты, два жанры. Буфанада і цырк з вялікім дадаткам кітчу ў першай частцы і аскетызм — у другой.

Абсурд у другім акце (па п'есе «Летні дзень») супрацьпастаўлены першай частцы, ён метафізічны. Жыву — не жыву? Навошта жыву? Як можна зразумець, што шчасце аднаго — пакута для іншага? Ці можна кахаць у свеце без законаў? І паўстае шмат розных праблем, якія выяўляюцца ў недарэчных узаемаадносінах.

**— Ці лёгка тэатр абсурду прымаецца гледачом? Або гэта кірунак не для ўсіх?**

— Абсурд — жанр, які, перш за ўсё, нялёгка перанесці ў мікракосмас акцёра, калі ён у ім не прывык працаваць. Ёсць артысты, якія зусім не могуць прымаць яго. А ёсць тыя, што не маюць у дадзеным жанры досведу, але выконваюць ролі так, як быццам усё жыццё адзін абсурд і ігралі.

**— Чым можа быць складаны тэатр абсурду ў плане акцёрскай працы?**

— У тэатры абсурду артыст не можа ратавацца Станіслаўскім, дадаць «унутраную гісторыю», пашукаць логіку, псіхалагічныя матывы... Інакш ён патрапіць у пастку і стане выглядаць падманшчыкам, які не ведае законаў сцэны, але пры гэтым хоча перадаць гледачу сваё разуменне (або неразуменне) сюжэта (а бывае, і яго недахоп). У тэатры абсурду ідэал узнікае пры сустрэчы акцёра і гледача, калі абодва да канца не ведаюць, навошта яны патрэбныя ў гэтай гісторыі. Яны могуць быць асобна або разам — гэта ўзнікае па волі рэжысёра, а яшчэ часцей — выпадкова, у залежнасці ад дакладных сітуацый, вызначанага дня і канкрэтных людзей. Недарэчнасць гэтага стану робіць сімбіёз артыста і гледача як бы дзіцем, якое павінна за кароткі час спектакля зразумець структуру свету, які не мае ўнутранай сістэмы.

**— Тэатр абсурду Мрожака, правакацыйная проза Кейсэн... Вам бліжэй эксперыментальны тэатр ці традыцыйны?**

— Што такое традыцыйны тэатр, а што — эксперыментальны? Вы ведаеце?.. А я думаю, што не ведаю. Бывае, што рэжысёры дапускаюць фармальныя апрабацыі і выкарыстоўваюць новыя (на сваю думку) рэчы. А потым аказваецца, што гэта ўжо было. Таму мая думка такая: эксперыментам будзе любы крок, калі рэжысёр імкнецца выпрацаваць свой стыль, абапіраецца на ўласныя пошукі, асабістую філасофію і не паўтарае тое, што бачыў у іншых. Калі прытрымлівацца такога шляху, то немагчыма паўтарыцца. Можна быць падобным да кагосьці, але нельга быць поўнай копіяй без мэтанакіраванага аднаўлення.

Вось я, напрыклад, у Беларусі зрабіў ужо два эксперыментальныя праекты: акрамя дзвюх аб'яднаных п'ес Мрожака, яшчэ і монадраму паводле рамана Кейсэн. Падказаў цудоўнай актрысе Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Юліі Шпілеўскай, як іграць абсурд. Артыста Новага драматычнага тэатра Сяргея Толсцікава выкарыстаў у ролях адразу чатырох персанажаў. Пра каштоўнасць гэтых эксперыментаў можна меркаваць з пункту гледжання інстынктаў і асобасных пераваг.



Фота з асабістага архіва Кацярыны Саладухі.

Сцэна са спектакля «Камера, якую дала мне маці».

**— Хто даў такія нетрывіяльныя назвы спектаклям («Камера, якую дала мне маці», «Што рабіць з тыграм?!»)?**

— Я заўсёды сам прыдумваю назвы. Гэта важна для мяне як аўтара, і гэта частка канчатковай канструкцыі. У нейкі момант гэта пражэктар, які ў прызначаным месцы дзеяння асвятляе сэнс і ісціну. А ў іншы момант — сакрэтны код для чытання сюжэта: своеасаблівая гульня з гледачом: зрабіць падказку ў выглядзе метафары, каб прымусіць працаваць яго інтэлект або сэрца.

**— Вы самі выбіраеце для пастаноўкі табуяваныя тэмы і пэўных аўтараў, ці гэта супадзенне інтарэсаў з прадзюсарамі?**

— Яшчэ ніводнага разу я не падпарадкаваўся інтарэсам прадзюсараў. І гэтага не будзе ніколі. У сучасным свеце так мала свабоды, што проста немагчыма самому прыбрадаць яе яшчэ і са сцэны! Мае пастаноўкі — толькі мае жаданні, мары і пошукі. Хоць часам веру падказкам разумных і дасведчаных сяброў. Напрыклад, вельмі добры грузінскі рэжысёр Давід Мгебрышвілі падказаў мне «Злодзея» Мысліўскага. Гэты твор я па-новаму зразумеў і паказаў.

**— Ці існуюць для польскага тэатральнага гледача табуяваныя тэмы?**

— Табу ў Польшчы даўно не было. Праўда, у апошні час з'явілася тэндэнцыя быць больш асцярожнымі ў дачыненні да рэлігійных тэм і крыху — да палітычных. Але мне не страшна, як маім шматлікім суайчыннікам. Тэатр існуе ў рэчаіснасці, якую не выбірае. Ён патрэбны для каментавання, таксама пры неабходнасці можа спрабаваць мяняць саму рэчаіснасць.

**— Ці прыцягваюць вас як рэжысёра творы беларускіх аўтараў? Магчыма, вы ставілі іх п'есы ў Польшчы?**

— У 2012 годзе я пераклаў і паставіў п'есу Дзіяны Балыка «Белы анёл з чорнымі крыламі». Потым быў спектакль «Жанчыны Бергмана» Мікалая Рудкоўскага. Яго я паставіў як дылогію разам з п'есай Інгмара Бергмана «Пасля рэпетыцыі». Атрымаўся цікавы эксперымент, які меў добрыя водгукі. Зроблена было ў чорна-белай канцэпцыі, у стылі фільмаў самога рэжысёра.

**— Чым далей плануеце радаваць і здзіўляць беларускага гледача, акрамя работы ў рамках праекта «*HomoCosmos*»?**

— Планую з Настай Ушаковай зрабіць умоўна другую частку «Двух апавяданняў аб жаноцкасці». Першай была «Камера…», а другім будзе «Агністы анёл» паводле рамана Брусава. Філасофскі спектакль пра каханне, якое знішчае, пра шызафрэнію і таямніцы душы жанчыны. Усё гэта — з фаўстаўскімі матывамі.

Яшчэ буду задаволены, калі атрымаецца прывезці ў Мінск маю версію «Эмігрантаў» Мрожака, пастаўленую ў Грузіі, — «*Flushed*». Спектакль аб'ездзіў ужо шмат фестываляў. У Польшчы адзін з занятых у пастаноўцы артыстаў нават перамог у фестывальнай намінацыі. А два акцёры патрапілі ў 2015 годзе ў пяцёрку фіналістаў «Дуруджы» — першай незалежнай тэатральнай прэміі Грузіі. Упершыню ў гісторыі такой прэстыжнай прэміі патрапілі ў фінал два выканаўцы з аднаго спектакля.

**— Над чым больш складана працаваць: над монаспектаклямі ці над пастаноўкамі з вялікім складам акцёраў? Як гэта адбіваецца на кастынгах артыстаў?**

— Шмат што залежыць ад падыходу рэжысёра: наколькі старанна ён бярэцца за сюжэт. За сябе скажу, што асабліва сур'ёзна ўспрымаю монаспектаклі. Сустракаюцца дзве галактыкі, зближаюцца і, нарэшце, судатыкаюцца. Гэта рэжысёр і акцёр. Што атрымаецца, ніхто не ведае да самага канца. Думаеце, што пры вялікай колькасці артыстаў гэта яшчэ больш складана? Не зусім. Там проста ўзнікае пэўны парадак у іерархіі адносін. Гэта нават не працай. Гэта — інакш.

Працэс падбору акцёраў для мяне заўсёды складаны: паглынае шмат энергіі. Таму кастынг лічу адным з галоўных складнікаў поспеху ўсёй працы.

**Шура ГРАМЫКА**

# Праекцыя душы

## Частка V: Сусвет анімацыйнага таленту

**Беларускія мультыплікатары заўсёды спрабавалі ствараць энцыклапедыі — беларускай казкі, беларускага жыцця, беларускіх людзей. Менавіта за гэтую шчырасць у паказе сябе і свайго народа нашы аніматары атрымлівалі прэстыжныя ўзнагароды.**

### НА РАДЗІМЕ МАСТАКА

Сапраўднай падзеяй айчыннай анімацыі стала стужка «Марк Шагал. Пачатак» (2016, рэжысёр Алена Пяткевіч), якая адлюстроўвае беларускі перыяд біяграфіі мастака, жыццё ў Віцебску. Аўтар сцэнарыя Д. Якутовіч пабудаваў сюжэт як успамін майстра. Фільм пачынаецца моцнай метафарай: Шагал стаіць на вяршыні гары, што сімвалізуе заканчэнне вялікага і складанага шляху. Ён бачыць космас, месяц, родны Віцебск. Вось месяц хістаецца нібы ківач і паўстае ў выглядзе маленькага люстэрка, якое прамянее чароўным святлом і адлюстроўвае твар маленькага Шагала. Герой быццам свабодна пераходзіць з аднаго часу ў іншы. Вядома, што ў дзяцінстве Шагал баяўся цемры, з якой паўставалі таямнічыя і фантастычныя вобразы. Але па карцінах відаць, што ён не адрываўся ад зямлі і распавядаў гісторыю свайго часу.

Такім шляхам пайшлі і аўтары беларускай стужкі — злучылі фантазію з рэальнасцю. Складанасць была ў тым, што яны не мелі права карыстацца дакладнымі візуальнымі цытатамі са славутых карцін, таму ўсе персанажы (а іх больш за пяцьдзясят) створаны асабістым уяўленнем і фантазіяй аўтараў. Грунтоўнай асновай сталі аўтабіяграфія «Маё жыццё» Шагала, яго жывапіс і графіка. У стужцы суіснуюць разнастайныя тэхнікі: перакладка, графіка, жывапіс, які прамянее любімымі фарбамі Шагала — залатым і ліловым. Менавіта творчая рызыка і талент мастака А. Мацюшэўскай далі фільму незвычайны і яркі вобраз Шагала — з мудрагелістым разрэзам вачэй, з тварам-маскай, за якой хаваецца сам творца. Толькі выразныя вочы выглядваюць з-за маскі і ажыўляюць яе. Па сутнасці, маска сімвалізуе ідэю сну і анімаваных сноў мастака.

Кожны кадр фільма насычаны паэзіяй — глядач атрымлівае асалоду ад матавага бляску бронзы і ценяў ад старых вагаў. Застаецца ў памяці вобраз бацькі, грузчыка ў рыбнай краме, з тварам біблейскага прарока. Выклікаюць добрую ўсмешку цётачкі Муся, Гуця і Хая, якія цвыркаюць, пырхаюць і лётаюць, як стракозы. Прыгожая Бэла, славутая муза мастака, з'яўляецца эпізадычна, як юнацкая мара. Услед за Шагалам аніматары візуалізуюць габрэйскі фальклор, замяшаны на глебе Віцебска. І людзі, і жывёлы — бык, конь, голуб — усё ідзе ад казак. Адначасова з тапанімічнай дакладнасцю паказаны старыя пахіленыя домікі, вежы царквы, школа Юдэля Пэна, родны дом з чырвонай цэглы на Пакроўскай вуліцы. Але і гэтыя вобразы адсылаюць да абагульненай міфапаэтыкі Шагала, у карцінах якога Віцебск набывае біблейскі выгляд Іерусаліма. Тут у гармоніі існуюць людзі і жывёлы, мастацтва і побыт.

У творах Шагала і ў стужцы беларускіх аўтараў адчуваецца ўплыў хасідызму як самага містычнага, ірацыянальнага руху іудаізму. Яго неад'емнымі рысамі былі танцы і песні, праз якія хасід выказваў радасць Боскай прысутнасці. Адсюль у фільме яркая і насычаная гукавая стыхія, блізкая да карнавальнай. Прафесійны музыказнаўца Соф'я Пяткевіч стварыла дынамічную і адначасова празрыстую партытуру, дзе клезмерскія і сінагагальныя найгрышы і напевы злучаюцца з барочнай музыкай і рэг-таймам. На ролю закадравага апавядальніка быў абраны Дзмітрый Астрахан: на думку рэжысёра, ён падобны да Іосіфа Бродскага, з асаблівым менталітэтам, з саркастычным стаўленнем да жыцця. Гукарэжысёр Уладзімір Сухадолаў працаваў тут, па сутнасці, на ўзроўні маштабнага мастацкага фільма. Наогул, аўтары выразна адлюстравалі віцебскі космас Шагала — у яго жыцці і карцінах.

### СТУЖКІ — У СВЕТ

На сёння беларуская анімацыя прысутнічае ў беларускай культуры як адметная сацыяльна-мастацкая з'ява, як паўнавартасная частка беларускага экраннага мастацтва. Яна ўключае ў сябе, як гэта адбываецца ва ўсім свеце, прыкладную, камерцыйную і аўтарскую плыні. Прыкладная анімацыя выкарыстоўваецца ў вытворчасці відэакліпаў і камп'ютарных гульняў. Камерцыйная анімацыя з'явілася ў айчыннай экраннай культуры з самага пачатку свайго існавання, калі мультыплікацыйныя фрагменты ўключаліся ў дакументальныя і ігравыя стужкі. Цяпер яна існуе ў выглядзе рэкламы, сацыяльных ролікаў, мультсерыялаў, відовішчных камерцыйных фільмаў, тэле- і відэаперадач, вучэбна-асветніцкіх і рэкламных фільмаў, камп'ютарных праграм. Прыклад новых тэндэнцый — цыкл сацыяльных ролікаў «Не гуляйце з агнём!», зроблены А. Туравай і М. Карпавай.

Зараз у айчыннай анімацыі захоўваецца адносная раўнавага ўсіх напрамкаў, магістральных шляхоў мастацтва. Але галоўная тэндэнцыя беларускай анімацыі пачатку XXI стагоддзя — рух да камерцыялізацыі. Аўтарскі пачатак, эксперымент адыходзяць на перыферыю галіны. Беларуская анімацыя павольна, але ўпэўнена рухаецца да наладжанай сістэмы індустрыі. Сучасны шлях анімацыі звязаны з сумеснымі творчымі праектамі, якія камерцыйна значныя, маюць магчымасць выхаду на еўрапейскі рынак. Для гэтага ёсць сфарміраваная група рэжысёраў, мастакоў, аператараў.

Пашыраецца сумесная вытворчасць, так званая капрадукцыя: айчынныя майстры працуюць са студыямі і прадзюсарамі Расіі, Нарвегіі, Швецыі, Даніі, Японіі: гэта У. Пяткевіч, В. Казлоў, М. Тумеля, І. Воўчак. Так, У. Пяткевіч пастаянна бярэ ўдзел у сумесных праектах з Расіяй, Вялікабрытаніяй, Францыяй, Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікай: стужкі «Чарапаха, якая заваявала павагу» (Расія, Вялікабрытанія, ПАР, 2001), «Слон і



*Кадр з фільма «Казкі старога піяніна. Фрэдэрык Шапэн» (рэж. І. Кадзюкова).*

чацвёра сляпых» (Францыя, 2005). М. Тумеля таксама працуе на іншых кінастудыях. Так, у 1998 — 2000 гг. ён працаваў па кантракце на анімацыйных студыях у Маскве, Портлендзе (ЗША) і Сеуле (Паўднёвая Карэя), у 1992 — 1993 гг. вёў заняткі па асновах анімацыі на курсах пры кінастудыі «Троіцкі мост» (Санкт-Пецярбург).

Яскравая прыкмета творчай сталасці айчынных аніматараў — іх удзел у велізарным расійскім анімацыйным праекце асветнага значэння «Гара самацветаў», які складаецца з 52 фільмаў. Кіраўніком яго быў славуты стваральнік студыі «Пілот» А. Татарскі, які, на жаль, заўчасна пайшоў з жыцця. У рамках праекта былі зроблены стужкі «Салавей» (2005) І. Кадзюковай, «Хлопчык-з-пальчык» (2006) І. Воўчака, «Шыш» (2006) і «Мядзвежыя гісторыі» (2007) М. Карпавай. Створаны па матывах татарскай казкі «Салавей» стаў адной з самых лірычных і прыгожых карцін цыкла дзякуючы мастаку Д. Сурыновічу. У сюжэце — адвечнае супрацьстаянне каштоўнасцяў: жыццё ў пазалочанай клетцы або свабода. «Хлопчык-з-пальчык» інтэрпрэтуе вядомую казку па-новаму. Насатая і вірлавокая бабка сячэ капусту, і ад яе адсечанага мезенца нараджаецца хлопчык, які стамляе ўсіх сваім клопатам і апекай. Багаты



*Кадр з фільма «Марк Шагал. Пачатак» (рэж. А. Пяткевіч).*

пан купіў хлопчыка, але ваўкі забралі яго з сабой. Наступная прыгода: хлопчык крычыць у зяпе ваўка і тым выратоўвае авечак. Малюнак нагадвае часопісны комікс з дакладным контурам.

### МАСТАЦТВА ВЫЯЎЛЕННЯ

Сярод сумесных праектаў вылучаецца стужка «Мюнхгаўзен у Расіі» (2006), зробленая аніматарамі кінастудыі «Беларусьфільм» і «СМ-Фільм» (Расія) рэжысёрамі У. Пяткевічам і А. Кацялеўскім, мастакамі Д. Сурыновічам і А. Лапотка. Была прапанавана новая версія фантастычных апавяданняў Э. Распэ пра прыгоды знакамітага выдумшчыка і фантазёра. Вецер вандраванняў заносіць яго ў Расію. Тут ён трапляе ў вёску, дзе яго сустракаюць па ўсіх законах рускай гасціннасці. Славуты сюжэт прывабіў у свой час шмат якіх мастакоў, напрыклад, знакамітага Карэла Земана, чэшкага майстра лялечнай тэхнікі. Сучасная стужка таксама багатая на гумарыстычнае штукарства.

У актыве беларускіх рэжысёраў — плённая праца ў праекце «Казкі старога піяніна». Праект прысвечаны вядомым кампазітарам і ствараецца сумесна с расійскай студыяй «М. І. Р» (ініцыялы генеральнага прадзюсара студыі Ірыны Рафаілаўны Марголінай). У стужцы «Казкі старога піяніна. І. С. Бах» рэжысёра А. Пяткевіч біяграфія славутага кампазітара перакладзена на метафарычную маляўніча-гукавую мову. Вытанчаная пластыка, далікатны малюнак і шматслаёвая анімацыйная прастора адпавядаюць складанаму свету класічнай музыкі. Запамінаецца вобраз вялікага дрэва, якое моцнымі каранямі трымаецца за зямлю, а галінамі цягнецца да неба. На кроне дрэва бачныя партрэты людзей — шматлікіх прадстаўнікоў славутага роду Бахаў. У дрэвыператвараюцца і трубы велічнага аргана (любімага інструмента Баха), якія таксама скіраваныя да неба. Другі сімвал фільма, які заўсёды суправаджаў Баха, — рыба. Менавіта рыба была таемным знакам для першых хрысціян. У жыцці кампазітара таксама было шмат выпрабаванняў, але вера заўсёды асвятляла яго жыццё спакоем. За мастацкія якасці фільм быў адзначаны расійскай прэміяй «Залаты арол», што стала для А. Пяткевіч не выпадковасцю, а заканамернасцю. Ужо яе дыпломная стужка «Лафертаўская макаўніца» атрымала ўзнагароды самых аўтарытэтных сусветных фестываляў, у тым ліку «анімацыйных Канаў» у Анэсі (Францыя).

Стужка «Казкі старога піяніна. Фрэдэрык Шапэн» Ірыны Кадзюковай нясе элегічную танальнасць. Скрозь гукі бліскучых вальсаў, эцюдаў, паланэзаў паступова выяўляюцца трагічныя рысы музыкі і аблічча Шапэна. Візуальная стылістыка, знойдзеная выдатным мастаком Д. Сурыновічам, — акварэльныя фарбы і вуглаватая далікатнасць тэхнікі перакладкі — быццам пераклікаецца з абліччам самога Шапэна і музычнай стылістыкай яго твораў. У стужцы выкарыстаны малюнкі Шапэна, Жорж Санд, Паліны Віярдо, Марыі Вадзіньскай, Тэафіла Квяткоўскага, а таксама тэксты лістоў Шапэна і Жорж Санд. Па сутнасці, у межах невялікага фільма рэжысёр правяла ўласны доследжыцця кампазітара і дакументаў эпохі ў мэтах рэканструкцыі гістарычнага часу і біяграфіі вялікага паляка. Атрымаўся тонкі і пранікнёны фільм у жанры «эмацыйнай біяграфіі» з нехрэстаматыйным прачытаннем лёсу вялікага кампазітара.

**Антаніна КАРПІЛАВА**

# УСЁ ПАЧАЛОСЯ З «АРФЕЯ»

**Міжнародны культурны праект аб'яднаў дзве ўстановы адукацыі: Мастацкі ліцэй імя Канстанціна Брэілою (г. Тыргу Жыу, Румынія) і Мінскі дзяржаўны музычны каледж імя М. І. Глінкі.**

Жыццёвым падмуркам развіцця культурных сувязяў паміж навучальнымі ўстановамі стаў гарадскі адкрыты конкурс камерных ансамбляў «Струны Арфея», які кожны год ладзіцца ў Мінскім дзяржаўным музычным каледжы імя Міхаіла Глінкі і аб'ядноўвае юных таленавітых выканаўцаў. Нездарма ў міфалогіі Арфей вядомы як легендарны спявак, музыка, творчасці якога скараліся не толькі людзі, але і багі, і нават прырода. Яго імя спакон веку ўвасабляе мастацтва. Нездарма статуя Арфея, якую ўсталявалі каля будынка каледжа ў 1979 годзе, не толькі дала імя конкурсу, на які з'язджаюцца выканаўцы з усёй краіны, але і звярнула ўвагу да сталічнай установы адукацыі румынскіх калег. У апошнія гады конкурсы з назвай «Арфей» сталі вельмі папулярнымі ў Румыніі: конкурс песень «Залаты Арфей», конкурс «Арфей» для выканаўцаў на духавых інструментах… А ў Мастацкім ліцэі імя Канстанціна Брэілою ладзіцца конкурс «Арфеус», удзел у якім на наступны год змогуць узяць навучэнцы з усіх краін свету.

«Пад знакам Арфея» пачаўся «Дыялог культур» — новы творчы досвед беларуска-румынскага Тыдня музыкі: у сценах каледжа гучала вакальная музыка румынскіх кампазітараў. Пад кіраўніцтвам старшыні цыклавой камісіі «Спевы акадэмічныя» Вольгі Косаравай сем выкладчыкаў каледжа разам с канцэртмайстрамі ладзілі адкрытыя ўрокі з вучнямі ліцэя імя Канстанціна Брэілою, вынікам якіх сталі майстар-класы па спевах для выкладчыкаў і навучэнцаў дзвюх устаноў адукацыі. На сумесным выніковым канцэрце піяністычнае майстэрства прадэманстравала Марыя Нягу, навучэнка ліцэя імя Канстанціна Брэілою. У апошні дзень візіту румынскай дэлегацыі ў габеленавай зале каледжа імя Міхаіла Глінкі можна было паглядзець работы румынскіх навучэнцаў спецыяльнасці «Мастацкае і выяўленчае мастацтва і графіка».



*Марыя Паланевіч — канцэртмайстар Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. Глінкі, Ясмін Палэчэк — навучэнка Мастацкага ліцэя імя Канстанціна Брэілою (Румынія).*

Сімвалічна, што візіт нашых гасцей супаў з пачаткам работы над перакладам знакамітай паэмы «Лучафэрул» («Ранішняя зорка») класіка румынскай літаратуры Міхая Эмінэску на беларускую мову. Знаёмства з унікальным літаратурным творам, які зачароўвае цягам стагоддзяў, стала падзеяй не толькі румынскай культуры, але і святам яднання нацыянальных культур дзвюх краін. Паэма Міхая Эмінэску, як сімвал румынскай паэзіі, загучала ў сценах каледжа на трох мовах: румынскай, рускай і ўпершыню на беларускай (у перакладзе Юліі Алейчанка). Уладзімір Міхайлавіч Чэрнікаў, кіраўнік міжнароднага праекта, дырэктар Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Міхаіла Глінкі, ганарыцца, што чытанне паэмы Міхая Эмінэску «Лучафэрул» адбылося ў сценах каледжа.

Урачыстая цырымонія падпісання Дамовы аб міжнародным супрацоўніцтве паміж дзвюма навучальнымі ўстановамі ў сферы культуры ў прысутнасці пасла Румыніі Віярэла Машану і намесніка начальніка ўпраўлення культуры Мінгарвыканкама Аляксандра Шастакова адкрыла шлях да ўмацавання культурных сувязяў паміж навучальнымі ўстановамі, абмену педагагічным і выканальніцкім досведам, арганізацыі сумесных праектаў.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Румыніі ў Рэспубліцы Беларусь Віярэл Машану адзначыў, што «менавіта сёлета Беларусь і Румынія адзначаюць 25-годдзе ўстанаўлення дыпламатычных адносін. Нягледзячы на тое, што дзве краіны ладзяць сумесныя румынска-беларускія культурныя мерапрыемствы, праект, які аб'ядноўвае навучэнцаў і канкрэтна звязвае дзве навучальныя ўстановы, арганізаваны ўпершыню».

Яркай падзеяй візіту румынскай дэлегацыі Мастацкага ліцэя імя Канстанціна Брэілою ў Мінскі дзяржаўны музычны каледж імя Міхаіла Глінкі стаў беларуска-румынскі канцэрт як вынік сумеснай працы і пачатак плённага супрацоўніцтва паміж навучальнымі ўстановамі дзвюх краін. Падчас канцэрта прагучалі творы румынскіх кампазітараў Джорджа Энэску, Ціберыу Брэдзічану, Марыі Тэнасэ, Грыгораша Дэніку, а таксама творы сусветнай класічнай музыкі. Беларуская музычная спадчына была прадстаўлена ў выкананні Настассі Булатоўскай і Кацярыны Шкурко. У канцэрце ўзялі ўдзел незвычайныя дуэты: партыю вакалісткі выконвала навучэнка з Румыніі, а партыя інструментальнага суправаджэння гучала ў выкананні канцэртмайстра каледжа. Музыкальнасць навучэнцаў ліцэя і піяністычны прафесіяналізм канцэртмайстраў каледжа Аляксандры Карпенка, Ірыны Лук'янавай, Марыі Паланевіч аб'ядналі творчыя намаганні для развіцця таленавітых навучэнцаў.

**Наталля КАРДАШОВА**

# Час-джаз

**Цыкл канцэртаў у сталічным Верхнім горадзе пад назвай «Джазавыя вечары з банкам БелВЭБ» сёлета пачаўся з адкрыцця, у літаральным сэнсе.**

У мінулую суботу спецыяльнай госцяй джазавых вечароў стала Сафія Курловіч, 7-гадовая джазавая піяністка з Салігорска. Пераможца двух конкурсаў, яна часта выступае за мяжой, аднак дагэтуль была мала вядомая беларускай публіцы. Менавіта ў родным Салігорску тады яшчэ шасцігадовая дзяўчынка атрымала першую перамогу. Выкладчыца дзяўчынкі Святлана Пятровіч патлумачыла напярэдадні адкрыцця джазавых вечароў:

— У Салігорску таксама ёсць джаз, нават уласны конкурс «*Jazz-time*», з якога і пачаўся творчы шлях Сафіі Курловіч. Мінулы год стаў для дзяўчынкі надзвычай плённым: мы шмат бывалі ў Маскве, выступалі з вядомымі музыкамі, у самых папулярных залах. Цяпер Сафія ўдзельнічае ў тэлевізійным конкурсе «Сіняя птушка» на тэлеканале РТР (за яе можна прагаласаваць). Спадзяюся, што і «Джазавыя вечары» стануць новай прыступкай у яе развіцці.

І яшчэ Сафія зможа з гонарам сказаць, што выступала на адной сцэне з легендарным Харысанам Янгам з Нідэрландаў, а таксама з трыа Скота Хэндэрсана з Францыі. Не застаюцца па-за ўвагай арганізатараў і беларускія музыкі: напрыклад, *VIP-JAZZ* Андрэя Славінскага і этна-джаз-дуэт *Agata*. Аднак гэта толькі прыемны пачатак: кожную суботу чэрвеня, у той жа час, на тым жа месцы можна будзе пачуць добры джаз.

— Асноўны складнік джаза — імправізацыйныя мелодыі, якія ў гэтым жанры нараджаюцца на сцэне, у момант выканання перад публікай, — распавёў музычны прадзюсар фестывалю Алег Каліна. — Галоўны крытэрый запрашэння музыкаў на гэты фестываль — уменне добра імправізаваць, таксама — магчымасць прыехаць у Мінск. Мы ганарымся, што змаглі скаардынаваць прыезд артыстаў, якія жывуць на іншым баку зямнога шара, і запрасілі музыкаў, якія занятыя ў летнім еўрапейскім турнэ. Публіка на гэтыя вечары прыходзіць розная: і падрыхтаваная, сапраўдныя прыхільнікі джаза, і выпадковыя мінакі. Мы пастараліся ўлічыць усе густы. Будуць гучаць і вядомыя джазавыя стандарты ў выкананні беларускіх музыкаў і замежных гасцей. Чакаецца і аўтарская музыка, вельмі эстэтычная. Калектывы розныя па колькасці ўдзельнікаў: ад дуэта, трыа, квартэта да біг-бэнда.



*Іграе Сафія Курловіч.*

Ужо 17 чэрвеня ў Мінск завітае Крысціян Галвез, а таксама Крысціян Куцюруфо з Чылі. Беларусь прадставіць трыа Канстанціна Гарачага (Канстанцін Гарачы, Вячаслаў Сяргеенка, Назар Рэджэпаў) і біг-бэнд пад кіраўніцтвам Барыса Мягкова.

— Гэтаму цыклу канцэртаў ужо 5 год, своеасаблівы юбілей. Пра паспяховасць канцэртаў сведчыць той факт, што, нягледзячы на надвор'е, людзі прыходзяць, каб судакрануцца з джазам, адпачыць, атрымаць зарад бадзёрасці, энергіі, — адзначыў Васіль Палонскі, прадстаўнік банка БелВЭБ, які падтрымлівае культурны праект.

24 чэрвеня ў Верхнім горадзе выступіць Кліў Джонс з ЗША і Набіль Хемір з Туніса. Нашу краіну прадставяць вакальны квартэт *Minsk Voisec* і калектыў *Premier Orchestra*.

Гэты год у многім адметны для беларускай музыкі. Сёлета споўнілася 40 год самаму вядому беларускаму джазаваму калектыву, які мае Гран-пры міжнароднага конкурсу, — ансамблю традыцыйнага джаза «Рэнесанс».

— Вырашылі ўключыць у праграму як мага больш джазавых дасягненняў беларускіх музыкантаў, — працягвае Алег Каліна. — Бо джаз у Беларусі мае глыбокія карані амаль у стагоддзе. Немагчыма не ўзгадаць аркестр пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга і яшчэ больш ранні аркестр пад кіраўніцтвам Эдзі Рознера. Джазавыя музыкі з вялікім хваляваннем ставяцца да нашай традыцыі і імкнуцца стаць яе прадаўжальнікамі.

**Ніна ШЧАРБАЧЭВІЧ**

# «З-ЗА КУЛІС» У АДКРЫТУЮ ПРАСТОРУ

## Складанасць партрэтаў у адмысловым выставачным праекце



Сілівончык Ганна «Лішнія дэталі», 2016 г.

Апошнім часам беларускія аматары мастацтва, завітаўшы ў галерэю альбо музей, сустракаюцца са шматжанравымі кампазіцыямі: на жаль, не так часта выдаецца магчымасць паглядзець творы аднаго жанру ў межах адной выставачнай пляцоўкі, тым больш у маштабным праекце. Беларускі саюз мастакоў вырашыў выправіць сітуацыю і прапанаваў вялікую экспазіцыю, прысвечаную партрэту. Цяпер у Палацы мастацтваў ладзіцца выстаўка «Псіхалогія вобраза», дзе жанр партрэта раскрыты мастакамі з розных бакоў.

Партрэтны жанр у выяўленчым мастацтве ва ўсе часы лічыўся адным з самых складаных. Нельга абысціся толькі фантазіяй і натхненнем. Калі мастак ставіць мэту стварыць партрэт, то павінен умець паглыбіцца ва ўнутраны свет, адчуць характар чалавека, тэмперамент, вывучыць звычкі. Ёсць патрабаванні да тэхнічнага майстэрства, кампазіцыйнага і колеравага рашэння, але і гэтага мала. Аўтар прымярае на сябе ролю псіхолага, пачынае не проста пісаць тое, што бачыць і ведае, а шукае індывідуальныя рысы характару: праз вочы героя можа расказаць яго таямніцы альбо праз дэталі зразумець, чым чалавек жыве, што яго хвалюе.

На выстаўцы прадстаўлены жывапісныя, графічныя, скульптурныя партрэты, нават партрэты, выкананыя мастакамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Куратары першапачаткова паставілі задачу праз творы прадэманстраваць эвалюцыю не толькі жанру, але і ўласна майстэрства.

— Выстаўкі з партрэтамі аднаго жанру вельмі актуальныя — наша арт-прастора ў іх мае патрэбу: зборных праектаў у краіне даволі шмат, а вось звужаных да аднаго кірунку практычна няма, — падкрэслівае дырэктар Палаца мастацтваў, адзін з арганізатараў выстаўкі Аляксандр Зянкевіч. — Калі мы канцэнтруемся на пэўным жанры (а з партрэтам гэта было не так часта), то павінны прааналізаваць, якую інфармацыю ён нясе, якія ў яго перспектывы, як наогул гэты жанр прадстаўлены ў культуры Беларусі. А мы ведаем: партрэт — жанр вечны. Калі, напрыклад, у кантэксце пейзажу мы гаворым пра ландшафтны аспект, то партрэт — у сістэме псіхалогіі. Кожны вобраз, створаны аўтарам, праз мімічныя асаблівасці, погляд, інтэлектуальны складнік паказвае ўнікальную асобу. Калі партрэт праходзіць праз прызму мастацкага ўспрымання, нараджаецца цікавы эфект: спалучэнне рэальнай асобы з аўтарскім вобразам, створаным мастаком падчас вывучэння біяграфіі героя. І кожны з гэтых твораў паказвае айчынную культуру роўна настолькі, наколькі аўтар гатовы выявіць яе ў сваёй творчасці.



Вольга Мурашка «Партрэт бацькі, скульптара В. Мурашова», 2008 г.



Мікола Купава «Кароль Міндоўг», 2013 г.

Гістарычны партрэт на выстаўцы — у цэнтры ўвагі. Мастакі звяртаюцца да вобразаў нацыянальных герояў, вядомых дзеячаў беларускай культуры. Францыск Скарына, кароль Міндоўг, вялікі князь Вітаўт, Сімяон Полацкі, Кастусь Каліноўскі, Максім Багдановіч… Аўтары імкнуцца не толькі перадаць вобраз, які можна сгытаць з кнігі, але і выявіць праз аблічча героя яго жыццёвы досвед. Праз шэраг гістарычных партрэтаў на выстаўцы раскрываецца ці не ўся нацыянальная культура Беларусі.

Не застаецца без увагі і аўтапартрэт. Прычым майстры ставяць задачу не толькі пераасэнсаваць характар альбо прадэманстраваць уласныя якасці, але імкнуцца і да філасофскіх разважанняў пра сэнс творчасці, мастацкага развіцця.

Лірычны партрэт у экспазіцыі пераважна звязаны з імкненнем аўтара паказаць сваіх блізкіх. Тут не можа быць абыякавасці, мастакі канцэнтруюцца на ўласным стаўленні да героя і жадаюць, каб глядач адчуў ноткі цеплыні. Уражваюць халодныя па колеры, але добрыя па эмацыйным настроі партрэты Зоі Літвінавай, прыцягвае твор «Ірына» Алеся Марачкіна, у якім аб'яднаны гісторыя і сучаснасць, зачароўваюць абстрактныя партрэты Ганны Сілівончык, кранае скульптура Вольгі Мурашкі, якая ўзнавіла аблічча бацькі, і Аляксандра Баграцёнка, які стварыў драўляную скульптуру Міхаіла Савіцкага…

Выстаўку можна назваць штуршком да рэалізацыі шэрагу мастацкіх праектаў, звязаных з прадстаўленнем аднаго жанру.

— Калісьці мы арганізоўвалі выстаўку нацюрморта, якая захапіла так, што ў выніку я шмат часу аддаў на стварэнне кнігі «Беларускі нацюрморт», — падкрэсліў Аляксандр Зянкевіч. — Цікавасць публікі дапамагла зразумець, што такія праекты дазваляюць праводзіць мастацкі аналіз больш глыбока і інтэрактыўна. Што тычыцца пейзажу, то і неабходнасці такой экспазіцыі наспела. Але пейзаж досыць часта прадстаўлены на групавых выстаўках. А вось партрэт доўга заставаўся «за кулісамі». Таму многае з таго, што бачыць глядач на выстаўцы сёння, экспануецца ўпершыню. Праект «Псіхалогія вобраза» можна ахарактарызаваць не толькі як выстаўку канкрэтнага жанру, але і як экспазіцыю навінак.

**Вікторыя АСКЕРА**

Першыя аптэкі на тэрыторыі Беларусі пачалі з'яўляцца ў сярэдзіне XVI стагоддзя. Доўгі час іх функцыі паспяхова выконвалі кляштары: манахі збіралі зёлкі, прымянялі веды ў хіміі, што і дазваляла вырабляць травяныя настоі, мазі і лекавыя парашкі. Аднак з часам узнікла патрэба ў прафесіяналах, якія займаліся б вырабам і продажам лекавых сродкаў у спецыяльна адведзеных месцах.

Першая аптэка на нашых землях з'явілася ў 1561 годзе ў Пінску, праз пяць гадоў — у Брэсце. Аднак яны не захаваліся. Гэтаксама як і полацкая (была адкрыта ў 1761 годзе). Ад некаторых засталіся толькі паўразбураныя або перабудаваныя будынкі, прынамсі, у Мсціславі, Ашмянах, Чавусах, Барысаве. Толькі адзінкі «дажылі» да нашых дзён.

Самая старая аптэка — у Гродне. Заснавалі яе ў 1687 годзе, а будынак пабудавалі езуіты ў 1709-м. У савецкі час аптэку рэканструявалі. Сёння яна працуе. Тут жа знаходзіцца музей аптэчнай справы.

У Траецкім прадмесці Мінска размешчана аптэка «Фармацыя № 88», якая дае ўяўленне пра выгляд падобных будынкаў у мінулым. Яе сцены ўпрыгожаны малюнкамі дзіўных раслін і жывёл, на паліцах — узоры правізарскага посуду, шалі, старыя медыцынскія і фармацэўтычныя кнігі. На другім паверсе знаходзіцца Кабінет гісторыі фармацыі, прызначаны для асветы спецыялістаў аховы здароўя.

Аптэка-музей на вуліцы Тэльмана ў Баранавічах — мясцовая славутасць, якая распавядае пра гісторыю развіцця фармацэўтыкі ў Беларусі. Пабудавалі яе ў 1920 годзе, а кіраваў аптэкаю да 1946 года правізар фармацыі Станіслаў Лаеўскі. Нават падчас вайны тут прадавалі розныя лекі, якія, паводле некаторых звестак, пастаўляліся і ў партызанскія атрады.

На першым паверсе будынка прадаваліся лекі, на другім размяшчалася лабараторыя, дзе рыхтавалі розныя зёлкі, парашкі ды мікстуры. Пасля рэканструкцыі першы паверх адкрылі ў 2000 годзе, а другі — у 2012-м. Міні-музей знаходзіцца на другім паверсе. Тут узноўлены інтэр'ер алхімічнай лабараторыі, захаваны асабістыя рэчы былога ўладальніка: шафа з дакументамі і кнігамі, крэсла, стары стол, пішучая машынка, акуляры, кніга загадаў 1946 года, рарытэтныя тэлефон і настольная лямпа, справаздача баранавіцкага аддзялення галоўнага аптэчнага ўпраўлення. А побач з будынкам — сапраўдны аптэкарскі агарод, як і было спачатку. Усё гэта пераносіць нас у іншую эпоху.

**Валянцін ПЯТРОЎ**

## Культурны ракурс




Аптэка-музей у Баранавічах.

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**

**Рэдакцыйная калегія:**
Таццяна Арлова
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Жана Запартыка
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Вячаслаў Нікіфараў
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
15.06.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1554.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2152

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12




ISSN 0024-4686